13 мая 2016 | № 19 (484)

# Новы час

novychas.by

•КУЛЬТУРА •ГРАМАДСТВА •ЭКАНОМІКА •ЛЮДЗІ •ПАДЗЕІ •ФАКТЫ

Парламенцкі рытуал–2016

стар. 4

ISSN 2218-2144









# Рэферэндум, які змяніў Беларусь

## Рэферэндум 1995 года фактычна змяніў асноўны накірунак развіцця Беларусі

Сяргей ПУЛЬША, Аксана КОЛБ

Сёння ўжо відавочна, што 14 мая 1995 года стала кропкай адліку спаўзання Беларусі да аўтарытарызму, ці, як некалі трапна заўважыў журналіст Вадзім Казначэеў, «недадыктатуры».

Збіццё ў красавіку 1995-га людзьмі ў масках дэпутатаў у будынку парламента, якія абвясцілі галадоўку ў знак пратэсту супраць незаконнага рэферэндуму, паклала пачатак эпосе брутальных распраў з палітычнымі апанентамі.

Так зацвярджаўся прававы нігілізм выканаўчай улады, стыль грубага праціскання патрэбных ёй рашэнняў. Другі рэферэндум у лістападзе 1996 года канчаткова замацаваў няроўнасць галін улады на карысць выканаўчай.

Нагадаем, на народны разгляд выносілася чатыры пытанні: аб наданні рускай мове роўнага з беларускай статусу; аб змене нацыянальнай сімволікі; аб падтрымцы дзеянняў прэзідэнта, накіраваных на эканамічную інтэграцыю з Расійскай Федэрацыяй; аб неабходнасці ўнясення зменаў у Канстытуцыю, якія прадугледжваюць магчымасць датэрміновага спынення паўнамоцтваў Вярхоўнага Савета прэзідэнтам у выпадках сістэматычнага або грубага парушэння Канстытуцыі.

Але ці дасягнула ўлада тых вынікаў, на якія разлічвала?

Пра юрыдычны бок рэферэндуму шмат ужо напісана: неканстытуцыйнасць, шматлікія парушэнні, непрызнанасць міжнароднай супольнасцю. І пра тое, што пытанне мовы і дзяржаўных сімвалаў наогул не магло выносіцца на плебісцыт, бо супярэчыла Канстытуцыі. Але спынімся на наступствах.

Правам на роспуск Вярхоўнага Савета Лукашэнка так і не скарыстаўся. Аднак яно дало яму карт-бланш на далейшыя здзекі з заканадаўчай улады, якія былі працягнутыя рэферэндумам 1996 года.

Курс на эканамічную інтэграцыю з Расіяй фактычна затрымаў нашу краіну на дзясяцігоддзі ва ўчарашнім дні. Замест таго, каб інтэгравацца ў міжнародную эканамічную супольнасць, асобныя дзеячы зараблялі на гешэфтах ад перапрацоўкі нафты, што давала сродкі для забеспячэння палітычнай лаяльнасці чыноўнікаў і падкормкі электарату чарговымі абяцаннямі светлай будучыні.

Шмат хто сцвярджаў, што курс на эканамічную інтэграцыю быў толькі першым крокам Лукашэнкі да Крамля. Аднак пра палітычную інтэграцыю Лукашэнку давялося забыцца, калі ў 2000 годзе на змену Ельцыну прыйшоў Пуцін. «Братэрская інтэграцыя» ператварылася з мастка ў Крэмль у пастку.

Сёння ўлада, хоць і скрозь зубы, але прызнае хібнасць «аднавектарнасці» ў эканоміцы. Гэтае пытанне больш нашкодзіла Лукашэнку, чым прынесла карысці, бо зараз перабудаваць эканамічныя адносіны ў бок «шматвектарнасці» ў яго ну аніяк не атрымліваецца.

А вось адмова ад нацыянальных сімвалаў на карысць савецкіх фактычна памяняла афіцыйную ідэалогію. На змену беларускаму нацыянальнаму адраджэнню прыйшла ідэя «славянскай інтэграцыі», якая ў выніку прывяла да таго, што прадстаўнікі так званага «рускага свету» пачалі разглядаць Беларусь выключна сваёй тэрыторыяй.




У выніку мы дасюль чуем пра штрафы і збіццё за нашэнне ўсё яшчэ нацыянальных сімвалаў нашай краіны.

Што тычыцца беларускай мовы, то, з аднаго боку, рэферэндум прывёў да далейшай русіфікацыі і ганьбавання нацыянальнай гісторыі і культуры. А з другога — дзяржаўная палітыка спрычынілася да змянення статусу беларускай мовы ў грамадстве. Паколькі дзяржава забылася на сваіх грамадзян, яны самі вырашылі звярнуцца да сваіх каранёў.

Беларуская мова, паводле трапнага выразу старшыні ТБМ Алега Трусава, стала «элітарнай», мовай ужо не вясковай, а найбольш паспяховых людзей. Фестываль беларускамоўнай рэкламы ADNAK! (таксама ж грамадская ініцыятыва!) фіксуе ўсё большае выкарыстанне мовы ў рэкламе. Прычым буйнымі міжнароднымі брэндамі. Усё больш бізнесу пераходзіць на беларускую, і не толькі ў рэкламе, але і ў справаводстве, і ў стасунках з кліентамі. Зараз у краіне дзейнічаюць дзясяткі курсаў па вывучэнні беларускай мовы, на якія не саромеюцца прыходзіць людзі розных узростаў.

Грамадскасць прымусіла ўвесці ў закон аб зваротах грамадзян норму пра тое, каб чыноўнікі адказвалі на запыты на мове звароту. Грамадскасць прымусіла Міністэрства адукацыі зраўняць колькасць гадзін, вылучаных на навучанне беларускай і рускай моваў і літаратуры ў школах. І зараз розныя VIP, так званыя «лідары меркаванняў», ад спартоўцаў да банкіраў, выказваюцца на карысць мовы.

Здаецца, не ўсё так кепска. Толькі вось ці шмат у свеце ёсць краін, дзе родную мову сталыя жыхары вучаць на курсах, якія арганізаваныя грамадскасцю? Дзе народныя паэты выдаюць свае творы за ўласны кошт? Дзе Таварыства беларускай мовы (заўважце, дзяржаўнай мовы Рэспублікі Беларусь) просіць у людзей грошы на аплату арэнды офісу?

Ці заглядаў Лукашэнка так далёка, калі апантана праціскаў правядзенне рэферэндуму ў 1995-м? Хутчэй за ўсё, не. Усе яго дзеянні былі прадыктаваныя савецкай парадыгмай, якая дамінавала як у яго галаве, так і ў галовах тых, хто яго атачаў. Лукашэнка быў выразнікам савецкасці і ажыццяўляў гэтую савецкасць у жыццё, узурпуючы ўладу і знішчаючы ўсе іншыя альтэрнатывы.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### БАРЫСАЎ. За мітынг прадпрымальнікаў складзеныя пратаколы



**Старшы інспектар Барысаўскага РУУСа Сяргей Якімовіч склаў пратаколы адміністрацыйнага правапарушэння на некалькі ўдзельнікаў мітынгу прадпрымальнікаў, які адбыўся ў Барысаве каля ўваходу на рынак.**

Пратаколы складзеныя на чатырох чалавек: на аднаго з лідараў пратэстнага прадпрымальніцкага руху ў Беларусі мінчука Аляксандра Макаева, гомельскага прадпрымальніка і грамадскага актывіста Міхася Латышава, кіраўніка Мінскай абласной арганізацыі незарэгістраванай партыі Беларуская хрысціянская дэмакратыя Паўла Пракаповіча і старшыню Барысаўскай арганізацыі Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада) Аляксандра Абрамовіча. Апошні з'явіўся арганізатарам несанкцыянаванага мітынгу пратэсту прадпрымальнікаў 7 мая ў Барысаве з 15 да 16 гадзін ля галоўнага ўваходу на рынак «КУП Барысаўскі гарадскі стадыён» пад лозунгамі адмены дыскрымінацыйных для індывідуальных прадпрымальнікаў прэзідэнцкіх указаў Аляксандра Лукашэнкі, перш за ўсё ўказа №222.

За арганізацыю і ўдзел у гэтым пратэстным мерапрыемстве чатыром згаданым асобам Сяргей Якімовіч прыпісаў парушэнне пункта 23.34 КаАП РБ.

**spring96.org**

### ГРОДНА. Працягваецца ціск на сябраў незалежных прафсаюзаў



**Супрацоўнікі гродзенскай міліцыі склалі пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні ў дачыненні да Васіля Корабава — прадстаўніка Беларускага прафсаюза работнікаў радыёэлектроннай прамысловасці па Гродзенскай вобласці.**

Яго абвінавачваюць ва ўдзеле ў несанкцыянаваным пікеце: так супрацоўнікі міліцыі акрэслілі акцыю актывістаў прафсаюза ў падтрымку звольненага са Слонімскай камвольнай фабрыкі Міхаіла Сошкі. Акцыя адбылася 31 сакавіка каля прахадной прадпрыемства.

На думку Васіля Корабава, дзеянні міліцыянтаў неабгрунтаваныя і носяць антызаконны характар:

— Пратакол падпісаны адным старшым участковым Слонімскага РУУС: без сведак, без нічога. Як, якім чынам ён складаў, мне ўвогуле не зразумела. Такіх дакументаў наша міліцыя вырабляе мноства. Яны напісаныя пад капірку. Відаць, наша міліцыя займаецца не той справай, якой займацца павінна: не шукаюць злачынцаў, а займаюцца невядома чым.

Справу Васіля Корабава, якога абвінавачваюць ва ўдзеле ў несанкцыянаваным мерапрыемстве, разгледзіць суд Ленінскага раёна Гродна. Адпаведныя дакументы супрацоўнікі міліцыі накіравалі ў судовую ўстанову.

**Радыё «Рацыя»**

### БРЭСТ. Рамеснікі знялі з продажу георгіеўскія стужкі пасля выкліку міліцыі



**Падчас масавых імпрэзаў да Дня Перамогі ў Брэсцкім парку культуры і адпачынку мясцовыя рамеснікі прадавалі па 20 тысяч рублёў георгіеўскія стужкі. Іх знялі з продажу пасля прыезду міліцыі.**

Рамеснікаў, якія мелі прычэпленыя георгіеўскія стужкі на грудзях і прадавалі іх у гандлёвых намётах, заўважыў у парку незалежны журналіст Алесь Ляўчук.

«Георгіеўскія стужкі пасля вядомых падзеяў ва Украіне сталі сімвалам расійскай агрэсіі, — пракаментаваў Алесь Ляўчук «Белсату». — Там усё таксама пачыналася з георгіеўскіх стужак і расійскіх сцяжкоў, і я не хачу, каб да нас у Беларусь прыйшоў «рускій мір». Я папрасіў гандлярку зняць стужкі з продажу, бо гэта закранае мае пачуцці. Калі яна адмовілася гэта зрабіць, я папрасіў даць мне кнігу скаргаў і прапаноў. Яе хаванне ад кліентаў цягне на штраф ад 10 базавых велічынь. Калі мне зноў адмовілі, я выклікаў міліцыю, якая прыехала даволі хутка. Гандляры адразу ж сталі выбачацца за тое, што былі закранутыя мае пачуцці, прыйшло іх кіраўніцтва, і мы прыйшлі да кампрамісу: я не патрабую складання пратаколу, а гандляры здымаюць стужкі з продажу і са свайго адзення».

Нагадаем, што аранжава-чорную стужку, якую ў Расіі называюць «георгіеўскай», пачалі негалосна пазбягаць у Беларусі праз год пасля таго, як яна фактычна зрабілася сімвалам расійскіх акупантаў і прарасійскіх сепаратыстаў на Украіне. Напрыклад, улады Бабруйску рэкамендавалі не выкарыстоўваць георгіеўскія стужкі на аўтапрабегу 9 мая.

**Паводле «Белсат»**

# Удзельніку крытычнай масы прад'явілі абвінавачванне

**Затрыманага ўдзельніка «Крытычнай масы» Дзмітрыя Паліенку перавялі ў СІЗА Жодзіна. Яму прад'явілі абвінавачванне па арт. 364 Крымінальнага кодэкса.**

Таксама стала вядома, што будзе рабіцца агляд месца здарэння і адбудзецца дадатковы допыт у сувязі з заявай Максіміліяна Бойчанкі аб прыцягненне супрацоўнікаў органаў унутраных спраў да адказнасці.

Нагадаем, жорсткае затрыманне веласіпедыстаў-удзельнікаў «Крытычнай масы» адбылося ўвечары 29 красавіка. У выніку грубых дзеянняў АМАПа было затрымана 6 чалавек, якіх моцна збілі і адвезлі ў РУУС Цэнтральнага раёна. Пазней чацвёра з затрыманых падпісалі пратаколы аб парушэнні правілаў дарожнага руху і аказанні супраціўлення супрацоўнікам органаў унутраных спраў і ДАІ, а супраць дваіх — Дзмітрыя Паліенкі і Стаса Канавалава — распачалі крымінальныя справы па арт. 364 Крымінальнага кодэксу «Гвалт або пагроза ўжывання гвалту ў дачыненні да супрацоўніка органаў унутраных спраў», за што пагражае да 6 гадоў зняволення. На сённяшні дзень Стас Канавалаў выпушчаны з ізалятара часовага ўтрымання пад падпіску абавязкова з'явіцца па выкліку ў Следчы камітэт у рамках крымінальнай справы.

На кватэрах некаторых затрыманых удзельнікаў былі праведзеныя вобшукі і пачаліся разгляды адміністрацыйных спраў па парушэнні правілаў дарожнага руху ў дачыненні да Аляксея Адамовіча, Дзмітрыя Пахомава і Кірыла Падабеда.

Дадому да Максіміліяна Бойчанкі, які падчас акцыі не быў затрыманы, прыехалі супрацоўнікі ДАІ і ўручылі позву з патрабаваннем з'явіцца ў РУУС Цэнтральнага раёна для ўдзелу ў адміністрацыйным працэсе.

**Для даведкі:**

Сваю гісторыю рух «Крытычная маса» бярэ з Сан-Францыска, дзе ў верасні 1992 года адбыўся першы арганізаваны заезд веласіпедыстаў па дарогах горада з мэтай звярнуць на сябе ўвагу. З таго часу ідэя пашырылася на ўвесь свет, і кожную апошнюю пятніцу месяца больш чым у 300 гарадах праводзяцца падобныя акцыі.

У руху няма лідараў і галоўных. Менавіта таму ён стаў такім папулярным ва ўсім свеце, бо не мае дакладнай ідэалогіі і паходзіць хутчэй на адкрыты форум, дзе кожны можа прапанаваць сваю ідэю і ажыццявіць яе. Удзельнікі «Крытычнай масы» звяртаюць увагу кіроўцаў на свае роўныя правы з імі ў дарожным руху не праз канфлікт, а праз выключна дабразычлівыя манеры.

Яшчэ ніколі, па сутнасці, мірная акцыя з эколага-сацыяльным падтэкстам не заканчвалася такімі жорсткімі наступствамі для яе ўдзельнікаў. І ў той жа момант, калі разглядаць парушэнні тых жа правіл дарожнага руху хаця б з экалагічнай складаючай з боку кіроўцаў аўтамабілямі, то ні адзін з іх не быў прыцягнуты да адказнасці такім гвалтоўным чынам.

«Асабіста мне падаецца, што ўсе тыя дзеянні ад супрацоўнікаў міліцыі і ДАІ, а таксама завядзенне крымінальнай справы былі звязаныя з самім характарам акцыі, з той сітуацыяй, якая склалася ў Беларусі. І гэта спроба апраўдаць агрэсіўныя паводзіны супрацоўнікаў ДАІ і АМАПу», — каментуе Наста Лойка, праваабаронца з цэнтра «Вясна».

Сёння ўдзельнікаў «Крытычнай масы» можна падтрымаць лістамі, паведамленнямі ў сацыяльных сетках, бо, па словах Насты Лойка, яны знаходзяцца ў даволі цяжкім маральным стане. Дзмітрыю, які знаходзіцца ў зняволенні, актуальна будзе дапамога перадачамі.

«Трэба як мага болей распавядаць пра гэту сітуацыю, у тым ліку выносіць на міжнародны ўзровень па партнёрскіх каналах. Бо часцей менавіта публічныя і міжнародныя механізмы больш спрацоўваюць, чым, напрыклад, юрыдычныя», — рэкамендуе Наста Лойка.

Дасылаць лісты падтрымкі Дзмітрыю Паліенку можна па адрасе: 222160, Мінская вобл., г. Жодзіна, вул. Савецкая, 22а.

**Паводле СМІ**

# Увесці мараторый на пакаранне смерцю

**Дырэктар Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека (БДІПЧ) АБСЕ Міхаэль Георг Лінк заклікаў Беларусь неадкладна ўвесці мараторый на прывядзенне ў выкананне смяротнай кары ў якасці першага кроку на шляху да яе поўнай адмены.**

Заява, апублікаваная на сайце арганізацыі, стала рэакцыяй на выкананне ў Беларусі смяротнага прысуду ў дачыненні да Сяргея Іванова (за жорсткае забойства чалавека), а таксама на рашэнне Вярхоўнага суда пакінуць у сіле смяротны прысуд Сяргею Хмялеўскаму (за забойства трох чалавек). Пра абодва факты стала вядома 6 мая.

«Цалкам відавочна, што шляхам адмены смяротнага пакарання большасць дзяржаў — удзельніц АБСЕ прызналі па сваёй сутнасці жорсткі, бесчалавечны і зняважлівы характар смяротнага пакарання», — заявіў кіраўнік БДІПЧ АБСЕ.

Ён нагадвае, што гэтае пытанне было ў цэнтры ўвагі ўдзельнікаў канферэнцыі, якая прайшла ў сакавіку ў Мінску і была арганізаваная Міністэрствам замежных спраў Беларусі, пастаянным прадстаўніком ААН у Беларусі і пасольствам Вялікабрытаніі.

«Я перакананы, што прывядзенне ў выкананне прысуду ў дачыненні да Сяргея Іванова супярэчыць сусветнай тэндэнцыі да адмены гэтага віду пакарання, з'яўляецца непрымальным адмаўленнем чалавечай годнасці», — заявіў Лінк.

Раней, нагадаем, з падобнымі заявамі выступілі Еўрапейскі саюз і Савет Еўропы.

Беларусь застаецца адзінай у Еўропе краінай, дзе да гэтага часу ўжываецца смяротнае пакаранне. З моманту набыцця краінай незалежнасці да расстрэлу былі прыгавораныя больш за 400 чалавек, Аляксандр Лукашэнка памілаваў з іх ліку толькі аднаго асуджанага. Пасля вынясення кожнага смяротнага прысуду Савет Еўропы, Еўрасаюз і праваабарончыя арганізацыі традыцыйна заклікаюць беларускія ўлады адмовіцца ад прымянення смяротнага пакарання і абвясціць мараторый на гэты від пакарання.

**Паводле БелаПАН**

# Уздымем сцяг разам з дзецьмі

**Фотамарафон пад назвай «Праспект нацыянальнага сцягу» запускае арганізацыя «Малады фронт».**

Каб прыняць у ім удзел, трэба сфатаграфаваць з бел-чырвона-белым сцяжком ці стужкай сваіх дзетак або сябе і выкласці на старонцы адмыслова створанай суполкі.

«Фоткайце дзетак, сябе, выкладайце на старонцы акцыі 14 траўня! Кожнаму ўдзельніку акцыі падарунак на выбар: налепкі на машыну ці Бел-чырвона-белы сцяг!» — заклікаюць арганізатары на сваім сайце.

Распачала акцыю дачка лідара «МФ» Змітра Дашкевіча — Мара.



ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Трымаемся. Надоўга?

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Народ адпачыў на працяглых выходных і вярнуўся да працы. І з новымі сіламі ўзяўся за вырашэнне старых праблем. Але ў кагосьці выходных як і не было.**

Хто добра працуе ў краіне — дык гэта Нацбанк. Праўда, ад яго гэтай працы патрабуюць міжнародныя структуры, але не важна, хто патрабуе, галоўнае — вынік. Вось і зараз фінансавы рэгулятар абвясціў, што ўкараняе новую метадалогію падліку золатавалютных рэзерваў краіны. Старшыня праўлення Нацбанка Павел Калаур паведаміў, што новая метадалогія МВФ падліку ЗВР лічыць неабходны іх аб'ём не проста ў месяцах імпарту, але ўлічвае і іншыя фактары, у тым ліку кароткатэрміновы доўг.

А таму мінімальны ўзровень неабходных Беларусі ЗВР — 10 мільярдаў долараў. Як пішуць у інтэрнэце, «пічалька». Таму што па папярэдніх падліках на 1 мая яны ў нас складаюць толькі 4,229 мільярда долараў у эквіваленце.

Першы намеснік старшыні праўлення Нацбанка Тарас Надольны дадаў, што «нарошчваць ЗВР трэба на беспазыковай аснове». І ЗВР у нас растуць трэці месяц запар. Так, у красавіку яны выраслі на 37,1 мільёна долараў. Аднак іх павелічэнню спрыяла атрыманне першага траншу еўразійскага крэдыту, што зусім не адпавядае паняццю «нарошчванне на беспазыковай аснове».

Падтрыманню золатавалютных рэзерваў спрыяла паступленне сродкаў ад продажу Нацбанкам і Мінфінам аблігацый, намінаваных у замежнай валюце, купля Нацбанкам валюты на таргах Беларускай валютна-фондавай біржы, а таксама паступленні ад збірання экспартных пошлін на нафту і нафтапрадукты. Пры гэтым у красавіку ўрад і Нацбанк пагасілі ў поўным аб'ёме знешнія і ўнутраныя абавязацельствы ў замежнай валюце.

Ці здолее краіна выканаць «звышпатрабаванні» Нацбанка? Тыя чатыры мільярды долараў, што ёсць зараз, — гэта паўтара месяцы імпарту замест бяспечных трох. У астатнім сітуацыя мала спрыяе аптымізму. У сакавіку 2016 года беларускі экспарт тавараў і паслуг упаў на 15,8% да сакавіка мінулага года.

За квартал зніжэнне экспарту склала 16,7%. Сальда гандлю таварамі і паслугамі сышло хай у невялікі, але ў мінус — 8,1 мільёна долараў супраць станоўчага сальда ў памеры 375,7 мільёна долараў у студзені-сакавіку мінулага года. Імпарт тавараў і паслуг у студзені-сакавіку ўпаў на 12,3%.


Фота www.websmi.by

**За квартал зніжэнне экспарту склала 16,7%, сальда гандлю таварамі і паслугамі сышло ў мінус**

Як ужо неаднаразова казалася, ёсць два спосабы атрымання грошай. Першы — гэта, паводле ката Матроскіна, «прадаць што-небудзь непатрэбнае». Другі — эканоміць на выдатках. Пакуль што ў нас не атрымліваецца ані першае, ані другое.

Сярод непатрэбнага, якое можна прадаць, нечакана апынуўся гонар беларускай турыстычнай індустрыі — санаторый «Беларусь» у Сочы. Як стала вядома на тыдні, краіна паспрабавала прадаць апартаменты і гаражныя боксы, якія знаходзяцца ў будынку апарт-гатэля. Прычым першы раз іх выстаўлялі на таргі паўтара месяца таму. Ахвотных набыць апартаменты не знайшлося, таму ў маі пройдзе яшчэ два аўкцыёны.

Будынак, у якім знаходзяцца апартаменты і гаражы, зусім свежы — эксплуатаваць яго пачалі толькі ў красавіку мінулага года. Кошт лічаць у расійскіх рублях, а паколькі з сакавіка расійскі рубель упаў, то і апартаменты, натуральна, падаражэлі. Напрыклад, калі пачатковая цана аднапакаёвых апартаментаў плошчай 59,7 квадратнага метра ў мінулы раз была 6,5 мільёна расійскіх рублёў, то цяпер за іх давядзецца аддаць 7,8 мільёна рублёў, або 118 тысяч долараў.

За такія грошы ў Мінску можна дзве трохпакаёўкі купіць. Цікава, ці знойдуцца пакупнікі на гэту «элітную нерухомасць».

Не атрымліваецца нам і ашчаджаць на выдатках. Толькі-толькі мы ўзрадаваліся, што гэтым разам улады вырашылі не марнаваць грошы на вайсковы парад у Мінску на 9 мая! Аднак, як высветлілася, радаваліся рана. Бо гэты парад рыхтуецца на 3 ліпеня.

Прынамсі, як паведамляецца, у Мінску з сярэдзіны гэтага тыдня «ў сувязі з рэпетыцыяй парада войскаў Мінскага гарнізона на аэрадроме Ліпкі магчымыя затрымкі і змены ў працы шэрагу аўтобусных маршрутаў». Як паведамляе «Мінсктранс», з 11 мая па 16 чэрвеня па вуліцах Заснавальнікаў, Францыска Скарыны, МКАД, вуліцы Ліпкаўскай будзе перасоўвацца тэхніка механізаванай калоны.

Чаму падрыхтоўка да параду займае два месяцы і колькі грошай будзе спалена ў рухавіках танкаў, не паведамляецца.

Аднак прыз за крэатыўнасць за гэты тыдзень я б выдаў міліцыі. А канкрэтна, РАУС Карэліцкага раёна Гродзенскай вобласці. Гэты РАУС вырашыў у бліжэйшы час адрамантаваць свой ізалятар часовага ўтрымання. Капітальны рамонт і мадэрнізацыя будынка ІЧУ абыдзецца мясцоваму бюджэту ў 2,9 мільярда рублёў, альбо сціплыя 150 тысяч долараў.

Усё б нічога, але Карэліцкі раён надзейна прапісаўся ў спісе вымiраючых рэгіёнаў. У 2012 годзе інтэрнэт-газета «Штодзённік» склала топ-10 самых гіблых раёнаў Беларусі. Карэліцкі раён заняў у гэтым несуцяшальным рэйтынгу другое месца. На той момант колькасць жыхароў раёна складала каля 22 390 чалавек. У першым паўгоддзі 2015 года ў раёне жыло 20 783 чалавека. Натуральнае змяншэнне насельніцтва ў параўнанні з аналагічным перыядам 2014 года павялічылася на 12,4%.

Цікава, як паўплывае новы ізалятар на дэмаграфічную сітуацыю ў рэгіёне? Ці будуць дэбашыры і хуліганы прасіць, каб іх перавялі ў адрамантаваны будынак у Карэлічах? А можа, пасля выпраўлення яны там і застануцца?

Але вось на кім эканоміць не трэба, дык гэта на дзецях. І тэлеканал «Беларусь–3» зрабіў ім велізарны падарунак. 17 мая ў чарговым выпуску «Калыханкі» з'явіцца новы лялечны персанаж — янот Цёма.

У Цёмы будзе свая сакрэтная лабараторыя, дзе ён зможа праводзіць даследаванні і прыдумляць нешта новае і цікавае. «Цёма — вялікі выдумшчык і вынаходнік! Ён ані дня не можа пражыць без займальных прыгод і эксперыментаў. Ён вельмі любіць прыхапіць чыю-небудзь рэч і прапаласкаць яе ў вадзе. А што? Нічога ж страшнага, калі ён трошкі выкупае Топін тэлефон або Яніна ў чаравічак...» — распавядае выканаўчы прадзюсар «Беларусь 3» Ларыса Есарція.

Можа, выдумшчык і вынаходнік Цёма падкажа, дзе ўзяць грошы і як выйсці з крызісу? Бо да ўсіх астатніх мы, падаецца, ужо звярталіся.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Эвалдас Ігнатавічус



**Пасол Літвы ў Беларусі выказаў слушную думку, якую ніяк не могуць уцяміць беларускія ўлады: кожны павінен займацца сваёю справай.**

Эвалдас Ігнатавічус адмовіўся ад запрашэння Міністэрства энергетыкі Беларусі наведаць пляцоўку атамнай станцыі, якая будуецца пад Астраўцом, каб асабіста пераканацца ў бяспечным правядзенні работ. «Я адмовіўся ад прапановы, бо, па-мойму, гэтым павінны займацца эксперты», — паведаміў Ігнатавічус. Ён падкрэсліў, што ажыццяўленне патрабаванняў па ядзернай бяспецы павінна праводзіць міжнароднае агенцтва па атамнай энергіі МАГАТЭ.

5 мая Міністэрства замежных спраў Літвы ўручыла амбасадару Беларусі Аляксандру Каралю ноту з-за «магчымага інцыдэнту на размешчанай у 50 км ад Вільні Астравецкай атамнай электрастанцыі». Мінэнерга прызнала, што 8 красавіка пры кладцы бетону аднаго з перакрыццяў бытавых і падсобных памяшканняў «адбылося частковае пашкоджанне канструкцый апалубкі». Гэты выпадак разглядаецца як дэфект пры падрыхтоўчых працах, «наступствы якога былі ліквідаваны».

6 мая пасол Літвы Эвалдас Ігнатавічус быў запрошаны ў Міністэрства замежных спраў Беларусі, дзе літоўскім баку была перададзена афіцыйная інфармацыя аб адсутнасці якіх-небудзь інцыдэнтаў на будаўнічай пляцоўцы за ўвесь час вядзення работ на аб'екце.

## Міхаіл Ежаль



**Услед за сям'ёй былога кыргызскага прэзідэнта Бакіева ў краіне застаўся экс-міністр абароны Украіны, былы пасол Украіны ў Беларусі.**

Па інфармацыі ўкраінскага канала ТСН, Міхаіл Ежаль пасяліўся ў Мінску, у мікрараёне Драздьі. У Беларусі ён мае від на жыхарства. Ва Украіне супраць Ежаля адкрыта звыш 50 крымінальных спраў.

Нагадаем, што 13 жніўня 2014 года стала вядома, што Генеральная пракуратура Украіны прад'явіла падазрэнне Ежалю ў межах крымінальнай вытворчасці па фактах падрыву абараназдольнасці арміі. Ежаль быў выкліканы на допыт у Кіеў, аднак украінскім уладам паведамілі, што з 10 жніўня 2014 года пасол знаходзіцца на лячэнні ў ваенным шпіталі ў Мінску і таму не можа вярнуцца ва Украіну.

У лютым 2015 года ГПУ адправіла запыт у Генпракуратуру Беларусі, каб высветліць, дзе знаходзіцца Ежаль і які стан яго здароўя. «Аднак у атрыманні запытанай інфармацыі Генеральная пракуратура Рэспублікі Беларусь адмовіла», — паведаміла тады Генеральная пракуратура Украіны.

11 мая 2015 года прэзідэнт Украіны Пётр Парашэнка вызваліў Ежаля з пасады пасла ў Беларусі. 14 мая Ежаль адпрацаваў свой апошні пасольскі дзень і таямніча знік.

У сакавіку 2016-га Галоўная ваенная пракуратура склала паведамленне аб падазрэнні Ежалю за неналежнае выкананне службовых абавязкаў падчас узгаднення ў 2011 годзе пераліку ваеннага маёмасці ВСУ, якое падлягала адчужэнню (па ч.2 арт.367 Крымінальнага кодэкса Украіны — службовая халатнасць, якая пацягнула цяжкія наступствы). Тады ж, у сакавіку, Ежаль быў абвешчаны ў вышук ва Украіне.

Новы пасол Украіны ў Беларусі дагэтуль не прызначаны. Функцыі кіраўніка місіі выконвае часовы паверанны Валер Джыгун.

## Меліціна Станюта



**Лідар зборнай Беларусі па мастацкай гімнастыцы выйграла чатыры ўзнагароды на трэцім этапе Гран-пры ў чэшскім Брно.**

У першы дзень спаборніцтваў Меліціна Станюта выступіла ў індывідуальным мнагабор'і і заняла другое месца. У індывідуальных спаборніцтвах беларуска яшчэ тройчы ўздымалася на п'едэстал гонару. У практыкаваннях з мячом і булавамі Станюта заняла другое месца. Трэцяй яна стала ў практыкаванні з абручом.

Перамогу ва ўсіх чатырох відах атрымала расіянка Маргарыта Мамун.

Чарговымі буйнымі спаборніцтвамі ў беларусак стане турнір у Ташкенце (13–15 мая), а з 20 па 22 мая этап Кубка свету па мастацкай гімнастыцы прыме Мінск.



**11**

**верасня павінны адбыцца выбары ў Палату прадстаўнікоў. Прынамсі, гэту дату прапанавала Лідзія Ярмошына, і яе ўхваліў Аляксандр Лукашэнка**

# Парламенцкі рытуал–2016

Антон ПЛАТАЎ

**Хутчэй за ўсё, на пачатку чэрвеня пачнецца кампанія па выбарах у Палату прадстаўнікоў. Гэта азначае, што мы зноў пабачым палітычны рытуал пад умоўнай назвай «не самыя важныя выбары». Прычым усе цырымоніі гэтага рытуалу з роўнай дбайнасцю будуць выконваць як улады, так і апазіцыя. Хаця, канешне, новыя знешнепалітычныя ўмовы крыху змянілі правілы гульні.**

## Знешняе і ўтоенае

Пакуль фармальна ўсё выглядае як дэманстратыўная бюракратычная гульня па правілах. На нарадзе з Лідзіяй Ярмошынай кіраўнік Беларусі ўхваліў прапанову ЦВК правесці выбары ў парламент 11 верасня. І адразу агучыў: трэба заадно зрабіць выбарчы працэс больш празрыстым у адпаведнасці з рэкамендацыямі АБСЕ па выніках прэзідэнцкіх выбараў 2015-га. Гэта значыць, што афіцыйны Мінск дэманструе прыхільнасць да падыходу, які быў выразна вызначаны ў другой палове мінулага года: хай Захад атрымае тое, што жадае, — бо вучыцца ў школе дэмакратыі можна в-е-е-е-льмі доўга. І вераснёвыя выбары пакажуць: беларускія ўлады «добрасумленна вучацца».

Вертыкаль улады прадэманструе перад міжнароднымі назіральнікамі гатоўнасць да большай адкрытасці і празрыстасці ў арганізацыі выбараў. Апазіцыі дазволяць весці агітацыю, не будуць арыштоўваць Статкевіча з парай соцень вечна незадаволеных актывістаў, а з тэлеэкранаў і старонак афіцыйнай прэсы будзе ліцца ліберальная рыторыка адносна ўсяго, што звязана з выбарчай кампаніяй.

Вось толькі дуля ў кішэні застанецца. Прасцей кажучы, улада захавае тыя механізмы, што дзейнічаюць пры фармаванні выбаркамаў і падліку галасоў. Сапраўды, навошта змяняць тое, што дазваляе забяспечыць кантроль над ходам і вынікамі выбараў? У выніку і еўрапейскія назіральнікі змогуць казаць пра «пазітыўныя змены», і парламент будзе сфармаваны такі, якім яго жадаюць бачыць у Адміністрацыі прэзідэнта. Усе задаволеныя.

Але якіх зменаў нам варта чакаць? У самім ЦВК кажуць пра тры кірункі па павышэнні празрыстасці выбараў — фармаванне выбарчых камісій, разгляд выбарчых спрэчак і падлік галасоў. Аднак сам Лукашэнка на нарадзе па пытаннях удасканалення выбарчага заканадаўства даў арганізатарам выбараў зразумець, што ў выбарчай кампаніі прынцыпова нічога змяняць не варта: «Народнае волевыяўленне, па той практыцы, якая склалася, павінна прайсці ў абсалютна дэмакратычнай і спакойнай атмасферы і, самае галоўнае, на найвышэйшым арганізацыйным узроўні, як гэта ў нас заўсёды было».

Тым не менш, нешта новае будзе. У 2016 годзе пераможца выбарчай гонкі на кожным участку будзе вызначацца па прынцыпе простай большасці. (Раней для перамогі кандыдату трэба было набраць больш за 50% галасоў выбаршчыкаў, што прыйшлі галасаваць.) Фармальна, гэта прагрэсіўны крок, рэальна — ён толькі на руку дзеючай уладзе. Так яна здымае адну з самых галоўных сваіх праблем — нізкую актыўнасць выбаршчыкаў у Мінску і буйных гарадах, іх схільнасць да пратэстнага галасавання і пратэстнага ж ігнаравання выбараў.

І тут уладам гатовыя падыграць апазіцыянеры. Арганічна няздольныя аб'яднацца, яны, з аднаго боку, проста «расцягнуць» пратэстны электарат. Некалькі кандыдатаў ад апазіцыі на адным участку — лепшы спосаб забяспечыць перамогу праўладнаму кандыдату, нават без усялякіх падтасовак! Да таго ж з боку найбольш радыкальных лідараў хутка пачнуць гучаць заклікі да байкоту выбараў, і гэта таксама адцягне пратэстны электарат ад выбарчых урнаў. Пасля гэтага апазіцыі ўжо не варта будзе вінаваціць афіцыйныя структуры ў маніпуляцыі вынікамі выбараў.



## Апазіцыя — як заўжды

Беларуская апазіцыя вечна спрабуе аб'яднацца, але гэтыя спробы ўжо 20 гадоў ні да чаго не прыводзяць. Зараз, напярэдадні парламенцкай кампаніі, зноў гучаць размовы пра аб'яднанне. Дакладней, гэтым разам — пра каардынацыю высілкаў дэмакратаў. У красавіку было абвешчана аб стварэнні пастаяннай рады дэмакратычных арганізацый, да якой далучылася большасць прыкметных палітычных сіл Беларусі. Гэта хутчэй пляцоўка для кансультацый. Хаця можна прыгадаць, што менавіта такі орган у 2005 годзе зрабіў «амаль адзіным» кандыдатам ад апазіцыі Аляксандра Мілінкевіча (і пры гэтым яшчэ адным кандыдатам ад апазіцыі быў Аляксандр Казулін).

Але пакуль новая рада дэмсіл ніяк сябе не выявіла — і наўрад ці паспее гэта зрабіць да 7 чэрвеня, да пачатку выбарчай кампаніі. 3 мая на пасяджэнні кансультатыўнай нарады дэмакратычных арганізацыі не змаглі дамовіцца аб фармаванні адзінага спісу сваіх кандыдатаў у дэпутаты. Таму на гэтых выбарах апазіцыя, хутчэй за ўсё, выставіць шэсць «калонаў»: правацэнтрысцкая кааліцыя, Партыя БНФ, Партыя «Справядлівы свет», «Гавары праўду», БСДП (Грамада), Нацыянальны Кангрэс. Сюды трэба дадаць, магчыма, ліберал-дэмакратаў (ЛДПБ), хаця, канечне, да апазіцыі гэта структура не належыць нават умоўна. Каго з іх можна разглядаць сур'ёзна?

Пачну з правацэнтрыстаў, якія ідуць на парламенцкія выбары адзіным спісам АГП, Руху «За Свабоду» і аргкамітэта па стварэнні Партыі БХД. Свой звяз яны стварылі яшчэ ўвосень 2015-га. «Першым тактычным этапам будуць парламенцкія выбары. Па тым, як праходзіць падрыхтоўка: ужо ёсць адзіны спіс кандыдатаў, пройдзеныя складаныя этапы — можна казаць пра ўстойлівую кааліцыю», — гаворыць першы намеснік старшыні Руху «За Свабоду» Юры Губарэвіч.

Вядома, што гэты альянс гатовы аб'ядноўвацца на ўзроўні рэгіянальных лідараў, створаная Асамблея народных прадстаўнікоў. Меркавана, гэта дазволіць ім «накрыць» усе выбарчыя акругі Беларусі, выставіўшы 110 кандыдатаў. Вось толькі з іміджам — бяда, прычым з усіх бакоў. І калі пра АГП яшчэ штосьці могуць сказаць, хаця б прадпрымальнікі, то «правацэнтрысцкі альянс» мала хто ведае. Не верыце? Спытаеце, што менавіта ведаюць пра Рух «За Свабоду» або БХД вашы суседзі па пад'ездзе, па дачы, або жыхары, напрыклад, Валожына ці Лагойска. Так што правацэнтрэсцкі брэнд трэба яшчэ раскручваць і раскручваць.

Партыя БНФ — ідэалагічна гэта той жа правы цэнтр, толькі практычна зусім без рэсурсаў. Але аб'ядноўвацца з АГП усё роўна не жадае. Пры гэтым лідар партыі Аляксей Янукевіч у сваіх каментарах адзначае: «Пасля завяршэння выбарчай кампаніі, з улікам досведу падчас выбараў, пытанне аб уваходжанні ў правацэнтрысцкую кааліцыю будзе абмяркоўвацца ў Партыі БНФ зноў».

Беларускі нацыянальны кангрэс — хутчэй прыгожая ідэя, што аб'яднала вядомых апазіцыянераў: экс-кандыдатаў у прэзідэнты Уладзіміра Някляева і Мікалая Статкевіча, а таксама прафсаюз РЭП, незарэгістраваны рух «Разам» і шэраг вядомых грамадскіх дзеячаў. Сам кангрэс мяркуецца правесці 15 мая. Паглядзім, што ў іх атрымаецца: ці змогуць яны абраць адзінага лідара і ці запрацуюць іх актывісты ў рэгіёнах.

Беларуская дэмакратычная левыя («Справядлівы свет», аргкамітэт Партыі жанчын, сацыял-дэмакраты, аргкамітэт Партыі працаўнікоў, шэраг «зялёных» груп) нават свой альянс вырашылі не ствараць — яны, здаецца, наогул ні на што не прэтэндуюць, хаця ўдзел у выбарах возьмуць. «У сувязі з тым, што выбараў у Беларусі няма, галасы не лічаць, прызнана немэтазгодным ствараць адзіны спіс ад левых сіл на парламенцкія выбары», — тлумачыць сваю пазіцыю Сяргей Калякін.

Кампанія «Гавары праўду» пасля прэзідэнцкіх выбараў застаецца своеасаблівым ізгоем, якога астатнія дэмсілы «за свайго» і не прызнаюць. ГП нават не запрасілі для ўдзелу ў радзе дэмсілаў і ў кампанію назірання «Права выбару». Але ў парламенцкіх выбарах Караткевіч&Дзмітрыеў удзел, вядома, прымуць. З якой эфектыўнасцю — гэта будзе залежаць ад добразычлівасці ўлады, з якой яны намагаюцца наладзіць кантакт.

ЛДПБ, як заўсёды, здзьмулася пасля прэзідэнцкіх выбараў, і ад пачатку 2016 года ўвесь час скардзіцца на хранічны недахоп грошай. Пры гэтым партыя актыўна раскручвае новага лідара — Гайдукевіча-малодшага, ківачна з прыцэлам на 2020 год. Ці захоча ЛДПБ зараз «кідацца на амбразуру» парламенцкіх выбараў — пакуль не вядома.

**Лукашэнка даў зразумець, што ў выбарчай кампаніі прынцыпова нічога змяняць не варта: «Народнае волевыяўленне, па той практыцы, якая склалася, павінна прайсці ў абсалютна дэмакратычнай і спакойнай атмасферы і, самае галоўнае, на найвышэйшым арганізацыйным узроўні, як гэта ў нас заўсёды было».**

# На шляху да прамысловага феадалізму

Дзяніс ЛАЎНІКЕВІЧ

**Пакуль на Захадзе паспяхова будуюць постындустрыяльную эканоміку, у Беларусі ўлады спрабуюць ісці кітайскім шляхам — развіваць эканоміку індустрыяльную. Але маштабы Беларусі і Кітая несупастаўныя. І спробы адрадзіць савецкую індустрыяльную мадэль або скапіяваць кітайскую — толькі яшчэ больш адкідваюць Беларусь на ўскраіну тэхналагічнага і сацыяльнага прагрэсу.**




### Аўтамабіль па-беларуску

Нарэшце 6 мая беларусы даведаліся, па якой мадэлі мы збіраемся будаваць будучыню айчыннай прамысловасці. Калі сцісла, то варта забыцца пра такія глупствы, як міжнародны падзел працы, спецыялізацыя вытворчасці і гнуткі падыход. Аўтамабілі мы будзем вырабляць у сябе, са сваіх камплектуючых, прадаваць іх за мяжу за валюту, а хто не будзе купляць — той радыска.

Менавіта такім быў лейтматыў, які Аляксандр Лукашэнка агучыў, наведваючы 6 мая Мінскі маторны завод (ММЗ). Блукаючы па цэхах прадпрыемства (ён наведаў галоўны зборачны канвеер 4-цыліндравых рухавікоў ды цэх зборкі і выпрабаванняў рухавікоў), прэзідэнт разважаў аб даляглядах развіцця эканомікі Беларусі з апорай на машынабудаванне. «2016 год — гэта год праверкі на трываласць усіх прадпрыемстваў краіны, асабліва такіх гігантаў, да якіх адносіцца і Мінскі маторны завод, — адзначыў Лукашэнка. — У гэтым пераліку таксама МАЗ, БЕЛАЗ, МТЗ, «Гомсельмаш» і іншыя прадпрыемствы, якія мы не можам страціць, бо гэта брэнд нашай краіны».

Пры гэтым, паводле меркавання кіраўніка Беларусі, для выпуску канкурэнтаздольнай прадукцыі патрэбна «захаванне цвёрдай дысцыпліны» і «дыктатура тэхналогіі». Выходзячы на новыя рынкі з новай якасцю і новым прадуктам, Беларусь зможа «выбрацца з крызіснай сітуацыі, у якую нас апусцілі», заявіў кіраўнік дзяржавы.

Да гэтага моманту яшчэ можна было трываць. Але далей пайшлі адкрыцці, ад якіх усялякі разумны эканаміст можа толькі заплакаць.

Лукашэнка распавёў, што неўзабаве на спецыяльнай нарадзе будуць разглядацца пытанні аўтамабілебудавання. Мэта — так рэфармаваць вытворчасць, каб атрымаць канкурэнтаздольны прадукт у выглядзе аўтамабіля, трактара і гэтак далей. Маўляў, зараз ідзе распрацоўка праграмы развіцця аўтамабілебудавання. «Вы выдатна разумееце, што мы, вырабляючы ў Беларусі з кітайскімі сябрамі гэты аўтамабіль («Geely»), урываемся ў «святая святых» першым чынам Расіі. Мы будзем яго прадаваць па ўсім свеце, у тым ліку ў Расіі і Казахстане, — адзначыў кіраўнік Беларусі. — Справа нашага гонару гэты аўтамабіль вырабіць менавіта ў такіх аб'ёмах і ў тыя тэрміны, якія мы плануем». І апафеоз: «У найбліжэйшыя год-два мы будзем мець поўны камплект вытворчасці ўласных аўтамабіляў».

### Камплектуючыя ёсць, сэнсу няма

У Беларусі ўлады вырашылі пайсці шляхам, процілеглым таму, якім ідзе прамысловасць па ўсім свеце. Нам прапаноўваюць зрабіць «цалкам свой» аўтамабіль і прадаваць яго за мяжой «па ўсім свеце», найперш у Расіі. Праўда, у самой Расіі зараз адзін за адным спыняюцца заводы, што былі адчыненыя ў ранейшыя гады сусветнымі аўтамабільнымі гігантамі. У крызіс расіяне перасталі купляць машыны. У 2015 годзе з Расіі сышоў амерыканскі гігант «General Motors», зачынілі свае зборачныя вытворчасці «Toyota», «Huindai», «Kia». Сёння на мяжы закрыцця ў Расіі шэсць аўтазаводаў з дваццаці, то бок 30%. Папросту няма попыту.

Больш за тое, аўтамабільныя заводы зачыняюцца нават у Кітаі — рынак перанасычаны больш якаснымі аўто вытворцаў з ЕС, ЗША, Японіі і Паўднёвай Карэі. Каму ў такіх умовах патрэбен той жа беларускі «Geely»? Які насамрэч — састарэлая японская распрацоўка, увасобленая ў Кітаі, але зараз — з уласнымі беларускімі камплектуючымі, зробленымі на яшчэ савецкай тэхналагічнай базе. Гэткі Франкенштэйн на чатырох колах.

Імкненне сканцэнтраваць усе этапы вытворчасці ў сваёй краіне, пад уласным кантролем, — гэта прамысловы феадалізм. Сучасная вытворчасць аўтамабіляў, як і любой іншай складанай тэхнікі, — гэта велізарны міжнародны канвеер, каапераცыя паміж сотнямі вытворцаў з розных краін. Нікому ў галаву не прыходзіць сканцэнтраваць вытворчасць усіх дэталяў і кампанентаў у адной краіне.

Ведаеце, у якой дзяржаве Еўропы сёння вырабляецца больш за ўсё аўтамабіляў на душу насельніцтва? У Славакіі. Дзякуючы падатковаму рэжыму і разумнай палітыцы яе ўлады здолелі прыцягнуць да сабе ў якасці інвестараў цэлы шэраг сусветных аўтавытворцаў — і яны пабудавалі там свае заводы. Але гэта зборачныя прадпрыемствы, камплектуючыя для якіх пастаўляюцца з самых розных краін свету. І славакі зусім не імкнуцца наладжваць у сябе іх вытворчасць.

Гэта Кітай, які мае велізарную тэрыторыю і двухмільярднае насельніцтва, можа вырабляць у сябе ўсе камплектуючыя для аўтамабіляў. Таму што нават калі ў Паднябеснай пачнуць вырабляцца ўсе машыны свету, гэта складзе толькі 5% мясцовай эканомікі. А Беларусь, калі наладзіць у сябе поўны цыкл вытворчасці аўтамабіля пры існуючых тэхналогіях, апынецца тэхналагічна адсталай краінай, па ўласнай волі ізаляванай ад свету. Мы застанемся нават не ва ўчорашнім дні, а ў першай палове XX стагоддзя.

Жаданне кіраўніка дзяржавы вырабляць уласныя легкавушкі можна зразумець — гонар за імідж «зборачнага цэха СССР» жывы дагэтуль. Але імкненне наладзіць у сябе яшчэ і поўную вытворчасць камплектуючых — гэта неверагодная эканамічная неабачлівасць. Зрабіць гэта на годным узроўні можна, толькі закупіўшы за мяжой усе патрэбныя вытворчыя лініі і навучыўшы ўласных высокакваліфікаваных працоўных. Але гэта запатрабуе выдаткаў, якія перавышаюць увесь дзяржбюджэт Беларусі. Значыць, зноў будзе «апора на ўласныя сілы» — рэалізацыя прынцыпу чучхе ў Еўропе ў XXI стагоддзі. Ці атрымаецца? Успомніце, як прайшла «мадэрнізацыя» прадпрыемстваў дрэваапрацоўкі, цэментавых заводаў. Высновы зрабіце самі.




***

Год таму я неяк зайшоў у мінскі ГУМ, дзе ўбачыў два ВК-тэлевізара. Цалкам аднолькавыя па дыяганалі экрана, па дызайне, па тэхнічных характарыстыках. Толькі першы каштаваў 10.500.000 рублёў, а другі — 11.500.000. Першы — «Panasonic» чэшскай зборкі, другі — беларускі «Гарызонт». Вы б які з іх купілі?

Вынік — у кастрычніку 2015-га вытворчасць тэлевізараў у Беларусі наогул спынілася. З-за свайго сабекошту яны не змаглі канкураваць нават з традыцыйна дарагімі еўрапейскімі.

**Даведка**

У 2014 годзе машынабудаўнічая галіна знаходзілася ў стане рэцэсіі: было выраблена прадукцыі машынабудавання на суму $9,44 мільярда, што на 25,6% менш у параўнанні з узроўнем 2013-га. У гэтым жа годзе доля машынабудавання ў агульным аб'ёме прамысловай вытворчасці Беларусі склала 14,4% (мінус 4,3% адносна 2013 года).

Каля 44% прадукцыі машынабудавання вырабляецца ў Мінску, у якім размешчаны асноўныя прадпрыемствы гэтай галіны: МТЗ, ММЗ, МАЗ, МЗКТ і іншыя.

Паводле афіцыйных дадзеных, у 2014 годзе было экспартавана прадукцыі машынабудавання на суму $4,8 мільярда. У параўнанні з 2013 годам аб'ём экспарту паменшыўся на 19%. 87% аб'ёму экспарту прыходзіцца на краіны СНД (экспарт асноўнай прадукцыі беларускага машынабудавання ў РФ складаў ад 50% да 80%); 41% аб'ёму імпарту прыходзіцца на краіны па-за СНД. Імпарт у асноўным быў сканцэнтраваны на той прадукцыі, якая не вырабляецца на тэрыторыі Беларусі (легкавыя аўтамабілі).

У 2014 годзе ёмістасць рынка прадукцыі машынабудавання (без уліку легкавых аўтамабіляў) склала 60,2 тысячы адзінак. У параўнанні з 2013 годам ёмістасць унутранага рынку знізілася на 7,1%. Спажыўцы на ўнутраным рынку прадстаўлены наступнымі групамі: насельніцтва (легкавыя аўтамабілі), прадпрыемствы з транспартным цэхам, спецыялізаваныя транспартныя арганізацыі і сельскагаспадарчыя комплексы.

Галіна машынабудавання ў Беларусі характарызуецца высокай ступенню кансалідацыі. На долю пяці найбуйнейшых прадпрыемстваў галіны прыходзіцца 22% у агульным аб'ёме вытворчасці, а на долю дзесяці буйнейшых кампаній прыходзіцца каля 26%.

Ў | Гэта я — беларускамоўны

# «Не понимаю Не будзьце

Таццяна ШАПУЦЬКА

**Мы працягваем знаёміць нашых чытачоў з асабістымі гісторыямі «беларускамоўнасці» ўдзельнікаў перапісу беларускамоўнага насельніцтва, ініцыяванага курсамі беларускай мовы «Мовананова». Нагадаем, у перапісе ўдзельнічалі каля дзвюх тысяч чалавек, аповеды якіх разбураюць міф пра тое, што беларуская мова існуе толькі ў сферах культуры, палітыкі ці адукацыі. Знаёмцеся з беларускамоўнымі экскурсаводам, тэолагам ды грузаперавозчыкам.**

**Павел Дзюсекаў, экскурсавод, Мінск**

Беларуская мова ўвайшла ў маё жыццё з урокамі гісторыі ў школе — у 2003 годзе да нас завітаў выкладаць знакаміты гісторык і краязнаўца Іван Сацукевіч. А потым у 10-м класе было прынята валявое рашэнне (проста аднойчы вырашыў па дарозе ў школу) пераходзіць на беларускую мову, на што мне спатрэбілася паўгода. Гэта не было складана, трэба было толькі практыкавацца і запамінаць новыя словы. Ну і куды ж без «добразычліўцаў», якія, гаворачы па-руску, не лянуюцца выпраўляць усе твае памылкі! Сваякі і сябры рэагавалі стрымана і здзіўлена, але мова — гэта асабісты выбар, тут уплыву кагосьці дапускаць не варта.

Цяпер карыстаюся мовай амаль увесь час: дома, на працы, з сябрамі, экскурсіі свае ў межах праекту "Вандроўкі ў мінулае" раблю таксама толькі па-беларуску. Руская мова застаецца для сяброў з Расіі і турыстаў адтуль жа, а таксама для крам, маршрутак і афіцыйных установаў. Напэўна, у ідэале трэба размаўляць па-беларуску і там, але я не вельмі люблю здзіўленыя вочы.

Пішу тарашкевіцай — неяк палюбілася яна мне з часоў «Нашай Нівы» пачатку 2000-х. У працы нават плюс — суполкі ў сацсетках выглядаюць стылістычна старэйшымі, дый весела чытаць каментатараў, якія кажуць, што я пішу з памылкамі.

Да мяне на экскурсіі завітвае шмат замежнікаў — украінцы, расіяне, быў нават іранец. Нашы суседзі мову разумеюць досыць добра, перапытваюць толькі асобныя словы. Дарэчы, самыя «ўлюбёныя» незразумелыя словы для саміх беларусаў — кляштар, бэз і падмурак.







**Ганна Залатар, тэолаг, Крыжоўка**

За зацікаўленасць беларускай мовай я ўдзячная, у першую чаргу, свайму тату, у вялізнай бібліятэцы якога стаялі шматлікія кнігі беларускіх пісьменнікаў. Аднак яны маглі б так і стаяць, нікім не прачытаныя, калі б не «Малады фронт», пра які я ў свае 14 гадоў даведалася са старонак "Нашай Нівы" і "Народнай Волі", што чытаў тата. Менавіта пасля далучэння ў 2007 годзе да гэтай моладзевай арганізацыі я пачала свядома размаўляць па-беларуску, цікавіцца беларускай літаратурай і гісторыяй, слухаць музыку на беларускай мове.

**Ты з'яўляешся тварам сваёй краіны, і трэба адказна ставіцца да гэтага. Карыстанне нацыянальнай мовай — знак павагі да Радзімы. Быць грамадзянінам — гэта яшчэ і абавязкі**

Нават думала паступаць на беларускую філалогію... Але ў выніку паступіла на тэалогію. Нягледзячы на тое, што мой пераход ад захаплення беларусістыкай да зацікаўленасці тэалогіяй быў, магчыма, не вельмі гарманічны, я здолела знайсці ў беларускай культуры каштоўны матэрыял для асэнсавання жыцця, што з'яўляецца адной з мэтаў тэалогіі, а таксама іўдаікі, якой я зараз займаюся. Я лічу, што гэта вялікая знаходка, якая робіць маю «беларускамоўнасць» яшчэ больш каштоўнай для мяне. Мая беларускамоўнасць — гэта і мая індывідуальнасць, і пачуццё еднасці з маім народам, гэта і пэўная арыгінальнасць, і пачуццё салідарнасці, гэта нонканфармізм, а таксама незлічоныя магчымасці самарэалізацыі.

Цяпер я навучаюся ў магістратуры ў Германіі. Напэўна, адным з самых шчаслівых для мяне момантаў быў дзень, калі я пасля доўгага часу адсутнасці беларускамоўнага наваколля сустрэлася са сваёй сяброўкай з Беларусі. І ў нямецкім горадзе Гейдэльбергу для мяне загучала беларуская мова.

**Юрась Лабашоў, грузаперавозчык, Мінск**

Для мяне пераход да беларускай мовы быў дастаткова доўгім працэсам. Усрыняць мову як альтэрнатыву і псіхалагічна прыняць яе за сваю не так проста, калі ты вырас у цалкам рускамоўным асяроддзі савецкіх людзей, а сапраўднае жыццё беларускай вёскі ўпершыню пабачыў у 23 гады, патрапіўшы да будучых цесцяў.

Значную ролю адыграла цяперашняя праца, дзякуючы якой я пабываў за апошнія 7 гадоў ва ўсіх раёнах Беларусі. Мне адкрылася Радзіма — дзякую Богу, што я змог прыняць яе і па-праўднаму палюбіць. І толькі пасля гэтага адчуў сябе дома, хаця дагэтуль быў пазбаўлены такога адчування. Падумаць толькі — столькі гадоў у гасцях!..

Вырашальную ролю сыгралі агульначалавечыя каштоўнасці,

# Аляксандр Грудзіна: «Мяне моцна

Сяргей ЧЫГРЫН

**Краязнаўца Аляксандр Грудзіна — адзін з тых, на кім трымаецца «малая гісторыя» Беларусі. Але менавіта з «малой гісторыі пачынаецца гісторыя вялікая, гісторыя ўсёй краіны.**

Сам спадар Аляксандр родам са Шклова. У 1977 годзе скончыў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію. Працаваў у Шклоўскай райаграпрамтэхніцы, а з 1991 па 2013 гады быў выкладчыкам Шклоўскага дзяржаўнага прафесійнага ліцэя №12. Шмат гадоў педагагічную працу Аляксандр Грудзіна сумяшчаў з краязнаўствам. Напісаў і выдаў дзве кнігі, апублікаваў сотні артыкулаў у раённай, абласной і рэспубліканскай прэсе, калек-



тыўных зборніках і краязнаўчых альманахах. Быў удзельнікам міжнародных і рэгіянальных навукова-практычных і краязнаўчых канферэнцый, дэлегатам Першага з'езду беларусаў свету, сябра ТБМ.

І працягвае займацца краязнаўствам, бо на гэтай ніве працы вельмі шмат.

***— Спадар Аляксандр, з чаго пачалася ў вас пільная ўвага да родных мясцін?***

— Ад сярэдняй школы. Дакладней, ад суседняга са школай будынка былой гарадской ратушы, які меў мясцовую назву «каланча». Кожны дзень на школьным двары погляд міжволі сустракаўся з гэтым старажытным, паўразбураным збудаваннем. Высокая вежа, унутраныя пакоі са скляпеннямі і цагляная мурова падзямеллаў заўсёды вабілі і прыцягвалі. Будынак, у асноўным, з'яўляўся безгаспадарчым, таму была магчымасць вольна наведацца яго і па-свойму вывучаць. У дзіцячай свядомасці мроіліся неверагодныя падзеі, якія нібыта тут павінны былі адбывацца ў мінулым. Сярод бітай цэглы і смецця вельмі хацелася «нешта» знайсці і даведацца пра якую-небудзь цікавую падзею.

Потым была вучоба ў сельскагаспадарчай акадэміі. На той час (1972–1977 гады) у акадэміі вучыліся студэнты з розных куткоў Беларусі, іншых рэспублік былога СССР, шмат студэнтаў з замежных краін... Безумоўна, сярод студэнтаў неадночы ўзнікалі самыя разнастайныя спрэчкі, дыспуты або проста пачыналася гаворка, дзе заўсёды можна было пачуць: «А вось у нашым горадзе...» або «ў нашым раёне...» І потым суразмоўца паведамляў нешта цікавае з гісторыі сваіх родных мясцін. Каб падтрымліваць размову, трэба было добра ведаць усё, што тычылася твайго мястэчка. Іншы раз нават даводзілася ісці ў бібліятэку і шукаць звесткі пра родны Шклоў.

Мой старэйшы брат Уладзімір жыў у Мінску. Калі я наведваў яго, ён заўсёды арганізоўваў які-небудзь паход-экскурсію па сталіцы. Ягоная цікавасць да ўсяго, імкненне да пазнання наваколля таксама зрабілі ўплыў на будучае маё захапленне.

Пасля заканчэння акадэміі пачалася мая праца ў Шклове. Шклоўская раённая газета «Ударны фронт» заўсёды друкавала інфармацыю па гісторыі Шклоўшчыны. Асабліва цікавыя рэчы пісалі ўжо сталыя мясцовыя краязнаўцы — Лявон Анціпенка, Міхаіл Ільюшэнка, Іван Кулікаў, Іван Маісееў. Я бліжэй пазнаёміўся з імі, праз гэтыя знаёмствы назаўсёды захапіўся краязнаўствам і міжволі стаў даследчыкам Шклоўшчыны. З цягам часу з'явілася жаданне і самому паспрабаваць сябе ў якасці аўтара. 16 лютага 1980 года ў раённай газеце з'явіўся мой першы краязнаўчы артыкул.

Гэта працягваецца да сёння. У сваю чаргу, праз краязнаўства я па-іншаму стаў успрымаць гісторыю, культуру, веравызнанні беларускага народа. Гэта таксама дапамагло мне ўсёй душой палюбіць і родную мову.

***— Раскажыце крыху пра асацыяцыю краязнаўцаў малых мястэчак Магілёўшчыны. Што гэта за асацыяцыя? Што яна зрабіла?***

# по-белорусски». манкуртамі, грамадзяне!




закладзеныя пры выхаванні бабуляй, а таксама аналітычны склад розуму і вялікая цікавасць да гісторыі і філасофіі, жаданне зразумець жыццё. Каталізатарам вывучэння мовы і пачатку карыстання ёй стала нараджэнне сына і адчуванне адказнасці за тое, якім ён вырасце. Я хачу, каб ён бачыў лепшыя прыклады, чым бачыў я.

Кола ўжывання мовы пашыралася паступова: пачаў з разважанняў услых з самім сабой цягам доўгіх камандзіровак за стырном, потым сямейнае кола, затым незнаёмцы і сябры. Памятаю, як было цяжка напачатку, бо думаць па-беларуску яшчэ не можаш, у галаве сядзіць нябачны перакладчык, які пастаянна працуе. Часам пара валіла з вушэй!

На жаль, па аб'ектыўных прычынах перайсці на мову цалкам пакуль не атрымалася. У сям'і, з сябрамі і з новымі людзьмі — толькі па-беларуску. Выключэнне складаюць тыя, хто не мясцовы і не здолеў альбо не пажадаў вывучыць беларускую, але стасункі з якімі мець даводзіцца.

Напрыклад, мой бацька разумее мову толькі месцамі, хаця лічыць (і раней лічыў), што я абавязаны яе ведаць, бо нарадзіўся тут. Часам бывае, што мяне ці ўнука пытае, што азначае нейкае слова. У яго цікавасці значную ролю сыгралі кантакты з унукам, бо падабаецца быць разам, а зразумець не заўсёды можа. Сын Марцін жа размаўляе толькі па-беларуску, і гэта выглядае натуральна, хоць ён і разумее па-руску. Такім чынам, далучэнне да беларушчыны адбываецца паціху і праз дзіцёнка — і гэта пазітыўна.

Даволі праблематычна выкарыстоўваць мову ў працоўных момантах — напрыклад, пры прыёмцы тавару па накладной, надрукаванай па-руску. Спрабаваў — атрымліваецца трасянка, а асабіста мне так размаўляць не падабаецца. Таму пакуль што ў працы са старымі кліентамі збольшага па-руску, але ў простай размове пачынаю ўсё часцей карыстацца беларускай. У моўным пытанні вымушаны ўлічваць палітычныя і жыццёвыя погляды кліентаў, лепшая тут пазіцыя — не абвастраць, не заганяць чалавека ў кут. Дзе пытанне рубам, там можа і негатыў пачацца. Я не жадаю быць прыстасаванцам, але ж і патрыёты-жабракі нікому не патрэбныя. Як яны могуць быць карысныя грамадству, калі самім няма чаго есці? Таму атрымліваецца ўнутраны канфлікт паміж жаданнямі і неабходнасцямі, што даволі цяжка пераношу маральна. Выйсце — шукаць новых і пастаянных беларускамоўных кліентаў, чым і займаюся. Зразумела, гэта няпроста.




Часам здараюцца незвычайныя сітуацыі з-за беларускай мовы. Бывае, кажаш: «Вітаю!» Перапытваюць: «Какой Виталик?» Збольшага людзі пазітыўна ставяцца да мовы, і даішнікі — не выключэнне. Аднак жа на мінулым тыдні першы раз сустрэў адмоўнае стаўленне. Дзень, шаша М1, Івацэвіцкі раён. Раптам мяне даганяе і спыняе «з мігалкамі» патрульны аўтамабіль: сумесная акцыя ДАІ і АБЭП. Але ў мяне ўвесь тавар па дакументах. Даішнік пачаў чапляцца да машыны, на маю мову адказаў, што калі не буду па-руску казаць, дык дакладна штраф выпіша. Зразумела, я не саступіў прынцыпова, бо ён жа добра мяне разумеў, нічога не перапытваў. Магчыма, сказаў так для цікавасці, каб праверыць на трываласць. Потым, пакуль я з адным абэпаўцам займаўся зверкай дакументаў, ён другому незадаволена паказаў на бел-чырвона-белую налепку на машыне. Урэшце адпусцілі, хоць было бачна, што далося ім гэта цяжка.

Вельмі паўплывала на адносіны да мовы вандроўка ў Кіеў у мінулым годзе. Людзі з цікавасцю размаўлялі, часам здагадваліся, адкуль ты прыехаў, рабілі кампліменты, што вельмі прыгожая мова. Бывала, перапытвалі, але ж, як я заўважыў, толькі тыя, хто сам размаўляў па-руску. Мы ездзілі разам з сяброўкай. Я з усімі гутарыў па-беларуску, яна са мной па-беларуску, а з мясцовымі, нібыта для хутчэйшага паразумення, па-руску. У апошні дзень маё чаканне было ўзнагароджана, калі яна спытала прадавачку, як прайсці, а тая адказала, што не ведае. Аб'ект, як хутка высветлілася, знаходзіўся на рагу...

Выснова простая: ты з'яўляешся тварам сваёй краіны, і трэба адказна ставіцца да гэтага, як да працы. Карыстанне нацыянальнай мовай — знак павагі да Радзімы, а часам і да прымаючай краіны. Быць грамадзянінам — гэта не толькі правы, але яшчэ і абавязкі. Напрыклад, добра ведаць дзве дзяржаўныя мовы, а не адну, адказваючы на зварот на другой: «Не понимаю по-белорусски!». Не будзьце манкуртамі, грамадзяне!

# засмучае сучасны стан краязнаўства»

— У пачатку 1990-х гадоў абудзілася цікавасць да гісторыі. У Магілёве пры краязнаўчым музеі пачало актыўна працаваць абласное краязнаўчае таварыства, праходзілі канферэнцыі, друкаваліся гісторыка-краязнаўчыя зборнікі «Магілёўшчына» і «Магілёўская даўніна». Безумоўна, галоўнымі натхняльнікамі і завадатарамі гэтых мерапрыемстваў былі навукоўцы магілёўскіх ВНУ, супрацоўнікі магілёўскіх музеяў. Я вельмі ўдзячны гэтым людзям. Асабліва тагачаснаму намесніку дырэктара Магілёўскага абласнога краязнаўчага музея Сяргею Бяспанскаму, навукоўцам Аляксандру Агееву, Ігару Пушкіну, Вячаславу Капыціну. Краязнаўцы-аматары заўсёды адчувалі ад іх неабходную падтрымку і атрымлівалі дапамогу ў даследчыцкай працы.

Натуральна, на мерапрыемствах у Магілёве дамінавалі навукоўцы з ВНУ. І ў пачатку 2000-х гадоў сярод краязнаўцаў, якія пражывалі ў райцэнтрах і на вёсцы, з'явілася ідэя своеасаблівага аб'яднання. Прычын было некалькі, але ў першую чаргу жаданне пазнаёміцца з індывідуальнымі здабыткамі і напрацоўкамі менавіта калег-аматараў, і непасрэдна на мясцовасці, якая даследуецца. Аднойчы журналіст і краязнаўца Міхась Карпечанка з Бялынічаў запрасіў мяне наведаць яго мястэчка, дзе і была агучана ідэя стварэння грамадскай ініцыятывы «Асацыяцыя краязнаўцаў малых мястэчак Магілёўшчыны». Прапанова атрымала агульную падтрымку.

**Чыноўніка ад адукацыі цікавяць толькі нейкія лічбы. А ці магчыма падлічыць тое, што адбылося ў свядомасці маладога чалавека, які нешта зрабіў для захавання спадчыны або проста наведаў музей?**

***— З чаго вы пачалі працу?***

— З канферэнцый. Першая краязнаўчая канферэнцыя адбылася 25–26 сакавіка 2005 года ў мястэчку Краснаполле. Другія краязнаўчыя чытанні адбыліся ў Клімавічах (2006 год), потым былі Шклоў (2008 год) і Бялынічы (2009 год). Найбольш актыўнымі арганізатарамі і ўдзельнікамі сустрэч і канферэнцый, безумоўна, былі той самы Міхась Карпечанка, а таксама настаўнік з вёскі Мілаславічы Клімавіцкага раёна Міхась Дуктаў. Менавіта дзякуючы апошняму былі надрукаваны матэрыялы канферэнцыі «Шклоўскі раён: шлях праз стагоддзі», якая адбылася ў Шклове ў 2008 годзе.

Наступная канферэнцыя-сустрэча планавалася ў Асіповіцкім раёне. Аднак тады ў дзяржавы змяніліся адносіны да грамадскіх ініцыятыў, у тым ліку і да краязнаўчых. Уся арганізацыйная праца па падрыхтоўцы і правядзенні мерапрыемстваў, выданні зборнікаў і матэрыялаў праводзілася выключна намаганнямі саміх краязнаўцаў. Ад дзяржавы патрабаваўся толькі дазвол і пямяшканне. Такога дазволу ў Асіповічах мы ўжо не атрымалі. Асіповіцкія чыноўнікі практычна знішчылі нашу асацыяцыю: вельмі цікавая і неабходная ініцыятыва паступова спыніла сваю дзейнасць. Асабіста для мяне гэта вельмі сумна. Дый не толькі для мяне, а для ўсіх краязнаўцаў Магілёўшчыны.

***— Гэта найперш і хвалюе краязнаўцаў той жа Магілёўшчыны?***

— Мяне моцна засмучае сучасны стан краязнаўства. Доўгі час я ўзначальваў працу школьнага музея, і адносіны дзяржавы да гэтай працы лічу нездавальняючымі. У першую чаргу, гэта датычыць ацэнкі дзейнасці працы настаўніка-краязнаўцы. Чыноўніка ад адукацыі цікавяць толькі нейкія лічбы. А ці магчыма падлічыць тое, што адбылося ў свядомасці маладога чалавека, які нешта зрабіў для захавання спадчыны або проста наведаў музей?

***— Раскажыце трохі пра ўласныя краязнаўчыя выданні. І што яшчэ будзе?***

— Вынікам маёй шматгадовай краязнаўча-даследчыцкай працы з'явілася кніга «І родныя сэрцу мясціны...» (некалькі нарысаў па гісторыі горада Шклова), якая пабачыла свет у 2007 годзе, а таксама выданне «Мой радавод, мая сям'я», якое выйшла ў 2011-м. Гэтыя выданні былі надрукаваны дзякуючы духоўнай і матэрыяльнай падтрымцы маіх сяброў Рыгора Кастусёва і Пятра Мігурскага. Цяпер працую над гісторыяй каталіцкага веравызнання на Шклоўшчыне і над тэмай «Ахвяры беспадстаўных рэпрэсій на тэрыторыі Шклоўскага раёна». Вынікі даследаванняў з цягам часу, магчыма, збяруцца ў кнігу.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ІРАН. З Каспія ў Персідскі заліў праз канал

Расійскія СМІ сцвярджаюць, што ў Іране пачалася падрыхтоўка да будаўніцтва судаходнага канала Каспій — Персідскі заліў. Праект мае стратэгічнае значэнне, паколькі стварае выхад для Расіі і Азербайджана ў басейн Індыйскага акіяна. Як следства, турэцкія Басфор і Дарданелы аказваюцца для гэтай мэты часткова не патрэбнымі. Цяжка сказаць, наколькі такая інфармацыя праўдзівая: хаця б таму, што трэба будзе пракапаць каля 750 кіламетраў, ды яшчэ і знайсці каля 10 мільярдаў долараў інвестыцый. У любым выпадку, гэта не першыя чуткі пра такі канал. Як мінімум тройчы на працягу мінула стагоддзя Расія і Іран абмяркоўвалі падобны праект, у тым ліку падчас славутага саміту антыгітлераўскай кааліцыі ў Тэгеране ў 1943-м. Найбольш прасунуліся бакі ў 1904 годзе, калі была нават створаная адпаведная ўрадавая расійска-іранская камісія. Аднак з-за спрэчак пра статус канала тады так і не дамовіліся (Пецярбург настойваў на прынцыпе экстэрытарыяльнасці па аналогіі з Суэцкім і Панамскім каналамі, якія належалі ў той перыяд, адпаведна, Вялікабрытаніі і ЗША). Застаецца паглядзець, што будзе цяпер.

**Паводле расійскай прэсы**

### ГЕРМАНІЯ. Суд баварскіх піянераў

У Баварыі пачаўся незвычайны судовы працэс. На лаве падсудных — 32-гадовы лідар баварскай секцыі арганізацыі «Свабодная нямецкая моладзь» (FDJ), якая паўстала ў Германскай Дэмакратычнай Рэспубліцы (ГДР) і, па сутнасці, была аналагам савецкай піянерскай арганізацыі. Як ні дзіўна, пасля падзення Берлінскай сцяны FDJ захавалася і, як бачым, нават стварыла суполкі ў землях, якія не ўваходзілі ў ГДР. Аднак праца ў Баварыі для піянераў аказалася праблематычнай. Мясцовыя юрысты знайшлі ў архівах пастанову Канстытуцыйнага суда ФРГ ад 1951 года, які забараніў мясцовы філіял FDJ у межах захадаў супраць камуністаў, якія лічыліся агентамі Масквы. У выніку маем прававы парадокс — на ўсходзе краіны «Свабодная нямецкая моладзь» дзейнічае легальна, а на захадзе той жа дзяржавы лічыцца арганізацыяй, якая нясе пагрозу канстытуцыі. Як нямецкая Феміда будзе вырашаць гэты прававы нонсенс, пакуль не вядома. У любым выпадку, калі нямецкія піянеры прайграюць справу, наступствы для актывістаў FDJ будуць не такімі суровымі, як маглі быць падчас «халоднай вайны».

**Паводле нямецкай прэсы**

### ЗША. Чарговы шкілет у шафе Клінтан

Чым бліжэй да выбараў прэзідэнта ЗША, тым больш кампрамату на патэнцыйных удзельнікаў гонкі. Зноў дасталося Хілары Клінтан. Стала вядома, што ў 1964 годзе, калі Клінтан было 16 гадоў, яна ўдзельнічала ў працы аднаго са штабоў мегакансерватыўнага рэспубліканца Бары Галдуотэра. Галдуотэр, які сапраўды пазней перамог у праймерыз, лічыцца найбольш рэакцыйным кандыдатам у прэзідэнты ЗША XX стагоддзя. Фактычна, падобны імідж мае сёння Дональд Трамп, якога Хілары Клінтан крытыкуе. Пры гэтым ужо ў наш час яна прызнавалася, што Бары Галдуотэр быў яе кумірам, паколькі паўстаў супраць палітычнай эліты. У сваю чаргу, прэса, якая падтрымлівае Клінтан, піша, што палітычныя погляды 16-гадовай дзяўчынкі наўрад ці трэба ўспрымаць усур'ёз. Тым не менш стрымаць скандал не атрымліваецца. Патэнцыйна кампрамат здольны падкасіць рэйтынг Хілары сярод афраамерыканцаў. Справа ў тым, што фішкай праграмы Галдуотэра была тэма адмены прынятага тады Акта аб грамадзянскіх правах, які гарантаваў афраамерыканцам роўныя правы з белымі суайчыннікамі.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### РАСІЯ. Масква абірае армянскую мову

Школа моваў суседзяў — адзіная ў Маскве грамадская ўстанова, дзе вывучаюць мовы народаў СНД, — апублікавала статыстыку папулярнасці моўных курсаў, якія дазваляюць зразумець, якая мова народаў былога СССР цікавіць масквічоў. Усяго ў школу, якая пачала працаваць у лютым гэтага года, было пададзена 794 заявы. Курсаў прапаноўвалася дзесяць: таджыкская, азербайджанская, армянская, беларуская, казахская, кіргізская, малдаўская (румынская), туркменская, узбекская і ўкраінская мовы. У выніку перамагла армянская. Вучыць яе запісалася больш за 200 чалавек. Спецыялісты лічаць гэта лагічным. Па-першае, у армян адна з самых вялікіх дыяспар у Маскве, а па-другое, Арменія — практычна монаэтнічная дзяржава. Там усё гавораць па-армянску. І калі маладыя людзі армянскага паходжання едуць туды да сваякоў і не гавораць па-армянску, для іх гэта даволі няёмкая сітуацыя. З той жа прычыны, хутчэй за ўсё, на другім месцы аказалася азербайджанская мова. На трэцім месцы — украінская, што можна патлумачыць інтарэсам расійскай грамадскасці да сітуацыі ў краіне. На якім месцы беларуская, у матэрыялах цэнтра, на жаль, не паведамляецца.

**Паводле расійскай прэсы**

# Панамагейт. Другая частка

*Алег НОВІКАЎ*



Фота www.interfax.ru

**Міжнародны кансорцыум журналістаў 9 мая апублікаваў поўную базу дадзеных наконт так званых «панамскіх афшораў». Хто з палітыкаў СНД стаў ахвярай чарговага зліву кампрамату, і як гэта адлюструецца на ключавых трэндах?**

Адразу адзначым, што, згодна з законамі большасці краін СНД, наяўнасць афшорных кампаній не з'яўляецца правапарушэннем. Парушэннем лічыцца нявыплата падаткаў і ўтойванне прыбытку ад дзяржавы, а таксама ўтойванне фактаў наяўнасці прадпрыемстваў у афшоры або замежнай юрысдыкцыі, калі чалавек з'яўляецца дзяржслужачым. З улікам гэтага асноўныя страты, якія зараз могуць панесці фігуранты спісу, — страты іміджавыя. Праўда, гэта (як сведчыць рэакцыя грамадства) таксама не драбяза — з улікам таго, што практычна ўсе бізнесмены, якія маюць афшоры, звязаныя з палітычнымі кланамі.

Усяго ў другім апублікаваным архіве (першая публікацыя адбылася 3 красавіка) змяшчаецца інфармацыя пра 214 000 афшорных кампаній, якія зарэгістраваныя ў 21 юрысдыкцыі. У спісе прысутнічаюць грамадзяне і кампаніі практычна ўсіх краін СНД. Аднак рэакцыя на публікацыю спісу падазраваных у карупцыі розная.

Зліў 9 мая найбольшы рэзананс займеў ва Украіне, дзе пазіцыі лагеру Парашэнкі вельмі слабыя і апазіцыя не супраць пастрыгчы купоны на скандалах з удзелам сяброў урадавай партыі. Новы пакет панамскага кампрамату стаў для іх сапраўдным падарункам. У спісе ўзгадваюць кіраўніка Нацбанка, чыноўнікаў Савету Нацбяспекі, міністра фінансаў. І ў якасці вішанькі на торце — прыбыткі афшорнай кампаніі Intraco Management Ltd атрымліваў намеснік генеральнага дырэктара карпарацыі «Рашэн». Прычым гэты афшор таксама актыўна працуе з «Газпромам».

Пад ціскам грамадскасці спікер Вярхоўнай Рады ўжо пагадзіўся на стварэнне следчай камісіі па праблеме афшораў. Усім відавочна, што праз гэту камісію будуць прасоўваць імпічмент. Працяг «Панамагейта» будзе азначаць складанасці для Парашэнкі пры прыняцці важных для яго рашэнняў. Гэта таксама створыць яму пэўны негатыўны бэкграўнд на Захадзе: напрыклад, у ходзе перамоваў з місіяй МВФ, з Еўрасаюзам і Злучанымі Штатамі.

Што будзе рабіць прэзідэнт Украіны, незразумела. «Парашэнку застаецца толькі гульня на ўтрыманне пасады. Для чаго яму давядзецца шукаць сакрэтны альянс з былымі «Рэгіёнамі» («Партыя Рэгіёнаў» была структурай зрынутага Віктара Януковіча. — рэд.). Ён будзе вымушаны ціснуць на нацыяналістаў, каб зняць нелюбоў да сябе на Поўдні і Усходзе. Патрабаваць ад сілавікоў адэкватнай рэакцыі на выхадкі праварадыкалаў і даваць паслабленні альтэрнатыўным вулічным рухам як антыдоту супраць ультраправых. Інакш дні прэзідэнта злічаныя», — адзначыў у каментары для «Новага Часу» адэскі грамадскі актывіст Уладзімір Азараў.

А вось актыў Майдана мае надзею, што афшорны крызіс стане першым крокам, накіраваным на вывядзенне з ценю прыбыткаў алігархічных кланаў. Гэта, маўляў, верне інтарэс грамадства да ідэалаў апошняй рэвалюцыі.

**Спецыяльная следчая служба Арменіі распачала крымінальную справу ў дачыненні да экс-кіраўніка Службы прымусовага выканання судовых актаў у сувязі з «Панамскімі дакументамі». Экс-чыноўніку інкрымінуюць «вядзенне нелегальнага бізнесу»**

Пасля Украіны панамскі скандал найбольш ударыў па казахскай эліце. Раней у «панамскіх дакументах» згадвалася імя ўнука Нурсултана Назарбаева — Нуралі Аліева. Ёсць звесткі пра набыццё ім праз афшоры дарагіх яхт, самалётаў і г.д. Цяпер прыйшла чарга і дачкі кіраўніка Казахстана, віцэ-прэм'ера краіны Дарыгі Назарбаевай.

Нягледзячы на такія гучныя імёны, афіцыйная Астана на гэта не рэагуе. «Панамагейт» абмяркоўваецца толькі ў сацыяльных сетках. Адсутнасць расследавання ў пракуратуры тлумачаць тым, што «дакладных звестак аб крыніцах гэтых матэрыялаў няма». Праўда, раней Назарбаеў казаў, што «ўсе афшоры выяўляюцца», і заклікаў бізнесменаў не хаваць грошы за мяжой і захоўваць іх у краіне.

Сітуацыя ў Казахстане чымсьці падобная да азербайджанскай. Нягледзячы на вельмі моцныя абвінавачанні на адрас Аліева, якія ўсплылі ў красавіку, улада і пракуратура гэтага нават не заўважаюць.

Цікава, што ў базе ад 9 мая значацца 37 фізічных і юрыдычных асоб, афіляваных з Арменіяй. Аднак менавіта ў Арменіі найбольш паслядоўна змагаюцца з афшорнай карупцыяй. 3 мая Спецыяльная следчая служба Арменіі распачала крымінальную справу ў дачыненні да экс-кіраўніка Службы прымусовага выканання судовых актаў у сувязі з «Панамскімі дакументамі». Экс-чыноўніку інкрымінуюць «вядзенне нелегальнага бізнесу». Яму пагражае да 2-х гадоў пазбаўлення волі — у выпадку прызнання яго вінаватым, канешне.

Што тычыцца Расіі, то майскія святы, калі вядучыя СМІ фактычна не працуюць, амартызавалі шок ад «Панамагейта», хаця ў спісе прысутнічаюць 6 тысяч (!) расійскіх юрыдычных і фізічных асоб. Праўда, на гэтым гісторыя не скончыцца. Раней прадстаўнікі Вашынгтона заявілі, што на падставе «панамскіх дакументаў» могуць быць пашыраныя антырасійскія санкцыі і «чорныя спісы». Мяркуючы па заявах апазіцыі, «Панамагейт» можа быць адной з галоўных тэмаў падчас выбарчай кампаніі ў расійскую думу. Прынамсі, раней партыя «Яблоко» патрабавала стварэння следчай камісіі.

З улікам таго, што гэты год у палітычным плане вельмі напружаны — выбары ў Расіі, Грузіі, крызіс ва Украіне, — «Панамагейт» будзе важным фактарам грамадска-палітычнага жыцця. Шмат што будзе залежаць ад вынікаў спецыяльнага саміту, прысвечанага праблеме афшораў, які адбудзецца на гэтым тыдні ў Лондане.



Фота www.alearningaday.com

# «Мы ўсе цяпер лісы»

Алег НОВІКАЎ

**Сенсацыйная перамога правінцыйнага клуба «Лестэр Сіці» ў англійскай прэм'ер-лізе, на думку СМІ, будзе мець глабальныя палітычныя, культуралагічныя і нават эканамічныя эфекты.**

Паводле спартовай статыстыкі, такая гісторыя пра футбольную Папялушку трапляецца раз на 30–40 гадоў. Апошні раз такое здзейсніў у далёкім 1978-м заштатны «Нотынгем Форэст». Рымейк прымусіў сябе чакаць аж 38 гадоў, пакуль на мінулым тыдні клуб з Лестэра не выйграў галоўны англійскі футбольны трафей. Нягледзячы на тое, што «Лестэр Сіці» прыкладна з пачатку года ўтрымліваў лідарства ў табліцы, шмат хто дасюль не можа прыйсці ў сябе.

І гэту публіку можна зразумець. Цяжка ўцяміць, што пераможцам самай заможнай лігі ў свеце стаў клуб, дзе гульцы яшчэ пару гадоў таму сумяшчалі працу на заводзе з футболам, а паміж гульнямі і трэніроўкамі сядзелі ў пабах. Пра ўчарашняе стаўленне да «Лестэр Сіці» лепш за ўсё сведчаць леташнія каціроўкі букмекераў. Перад сезонам букмекерскія канторы прымалі стаўкі на перамогу клуба з каэфіцыентам 1 да 5000. З такім жа поспехам, як смяецца прэса, можна паставіць на тое, што вядомая мадэль Кім Кардаш'ян стане прэзідэнтам ЗША. Футбольныя эксперты тады сыходзіліся на думцы, што галоўнай задачай каманды ў сезоне 2015–2016 будзе захаванне месца ў прэм'ер-лізе, а некаторыя ўвогуле прарочылі камандзе вылет з вышэйшага дывізіёну.

Асобнае месца ў байцы пра «Лестэр» займае галоўны трэнер Клаўдзіа Ран'ера, на кар'еры якога даўно паставілі крыж. Нават трэнерам ён стаў дзякуючы выпадку: напярэдадні старту сезона некалькі гульцоў і сын экс-трэнера сталі фігурантамі сексуальнага скандалу. Каб адмыцца, кіраўніцтва клубу пачало тэрмінова шукаць замену трэнеру. Выбар спыніўся на нікому не патрэбным Ран'еры.

Так ці інакш, «Лестэр Сіці» перамог, выклікаўшы фурор у СМІ. Практычна ўсё каментатары называюць чэмпіёнства «лісоў» (мянушка клуба) велізарнай рэкламай духу і філасофіі спорту. «Мы ўсе цяпер лісы», — піша вядомы брытанскі пісьменнік Джуліян Барнс у эсэ, прысвечаным вынікам чэмпіянату. «Прычына не ў тым, што ў «Лестэр Сіці» на старце, падавалася, няма ніводнага шанцу. (...) На полі клуб не гуляў, а дэманстраваў асобны этас. Бескарыслівасць, працавітасць, рамантызм, прынцып «усе за аднаго і адзін за ўсіх», гатоўнасць змагацца да апошняй хвіліны дададзенага часу: пурытанскія

**Левая прэса пабачыла ў перамозе «Лестэра» фіяска буйнога капіталу. «Праца перамагла капітал!» — так пракаментавала нямецкае выданне «Junge Welt» вынікі чэмпіянату Англіі**

каштоўнасці апранутыя ў сінія клубныя футболкі», — тлумачыць свой тэзіс літаратар.

Спрабуюць шукаць у спартовых падзеях і палітычную метафізіку. Левая прэса аднагалосна пабачыла ў перамозе клубу з Лэстэра фіяска буйнога капіталу. «Праца перамагла капітал!» — так пракаментавала нямецкае выданне «Junge Welt» выніқі чэмпіянату Англіі. На думку выдання, поспех «Лестэр Сіці» — гэта ўдар калектыву футбалістаў па алігархічным карпарацыям, якія стаяць за грандамі брытанскага футболу: «Чэлсі», «Арсенала» і г.д.

Звяртаецца ўвага і на тое, што поспех «Лестэр Сіці» — гэта, па-сутнасці, пераказ байкі пра Давіда і Галіяфа. Так, Джузэпе Бепе — лідар левай італьянскай партыі «Рух пяці зорак», заявіў: «Галоўны ўрок «Лестэра» — малым сілам можна перамагаць насуперак рэйтынгам і індэксам, маючы невялікія фінансавыя рэсурсы».

Пры ўсёй эйфарыі вакол гістарычнага прарыву «Лестэр Сіці» шмат хто баіцца, што навіны з Англіі будуць спрыяць дэградацыі футболу на перыферыі. Справа ў тым, што спонсарам «лісоў» выступае тайскі бізнесмен Вішай Шрываданапрабха. Дзякуючы поспеху «Лестэр Сіці» Вішай стаў сапраўдным нацыянальным героем. Ёсць пагроза, што іншыя алігархі з краін трэцяга свету, натхнёныя прыкладам тайскага калегі, кінуцца набываць англійскія клубы замест таго, каб інвеставаць у айчынны футбол.

А вось італьянская газета «Il Maniphesto» баіцца, што казка пра «Лестэр Сіці» прывядзе да хаосу на рынку каціровак і рэйтынгаў. «Камандзе Ран'еры ўдалося ўвайсці ў гісторыю, паколькі яна давяла, што ў кожнага ёсць роўныя шанцы ў барацьбе з камандамі арабскіх шэйхаў або расійскіх нафтавых алігархаў. У гэтым плане «лісы» пахавалі прэстыж рэйтынгавых агенцтваў, сталі сімвалам дынамічнасці фінансаў і канкурэнтаздольнасці ва ўмовах глабалізацыі», — піша Il Maniphesto. Гэта, зазначае выданне, можа справакаваць інтарэс да «мёртвых» аблігацый і выбух біржавых спекуляцый.

Яшчэ адным следствам трыумфу «лісоў» могуць стаць нерэалістычныя ілюзіі ў галовах нейкіх палітыкаў наконт свайго патэнцыялу: маўляў, чаму «Лестэр Сіці» можа, а я не? Тым больш, што сітуацыя ў палітыцы вельмі нагадвае сітуацыю ў англійскім футболе. Як адзначае ўплывовае аналітычнае выданне «Huffington Post», «поспех Дональда Трампа вельмі нагадвае пераможны шлях «Лестэра». (...) Як і «Лестэр Сіці», ён (Трамп) кінуў выклік, хаця ўсё было за тое, што ён павінен адысці ўбок. Гэта шакавала і паслабіла яго праціўнікаў».

Ахвярамі ілюзіі пра здольнасць паўтарыць подзвіг «Лестэр Сіці» могуць стаць не толькі дэмакратычныя палітыкі. На думку амерыканскага выдання «Vote», сярод такіх неадэкватаў можа быць і Кім Чэн Ын, дыктатар Паўночнай Карэі, які любіць гуляцца ў атамны шантаж.

Пакуль каментатары сварацца, усе чакаюць працягу казкі пра футбольную Папялушку з Лестэра. Ужо згаданы вышэй «Нотынгем Форэст» пасля перамогі ў чэмпіянаце Англіі два разы запар быў уладальнікам Кубку еўрапейскіх чэмпіёнаў. Ці здольныя «лісы» на нешта падобнае? Ран'еры ўжо заклікаў грамадскасць быць гатовымі да новых хуткіх сюрпрызаў ад яго падначаленых.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Карал Гэры



Лідар партыі People Before Profit («Людзі важней за прыбытак»), што дзейнічае ў Паўночнай Ірландыі, стаў сімвалам магчымых будучых пераменаў у рэгіёне, дзе амаль паўстагоддзя захоўваецца схема — партыі каталікоў супраць стаяць партструктурам пратэстантаў. Гэтыя традыцыйныя палітсілы зноў атрымалі большасць у мясцовай парламенцкай асамблеі па выніках выбараў 5 мая. Аднак упершыню ў гісторыі ў рэгіянальны парламент таксама трапілі ў вялікай колькасці новыя сілы, якія намагаюцца пераадолець старую канфесійную вендэту.

Найбольш арыгінальная сярод неафітаў — партыя People Before Profit пад кіраўніцтвам 29-гадовага Карала Гэры. Гэта невялікая групоўка прыхільнікаў Льва Троцкага ўмудрылася атрымаць цэлых два мандаты ў парламенце. Галасы партыі Карала прынеслі лозунгі супраць беспрацоўя і скарачэння сацыялкі.

Акрамя гэтага ў парламент трапілі такія невялікія партыі, як «Зялёныя» і «Партыя альянсу», якая выступае за пошук кампрамісу паміж царкоўнымі камунамі. Увогуле, малыя партыі атрымалі разам каля 40 мандатаў з 109, аднак для ўдзелу ў фармаванні ўраду гэтага недастаткова. Хутчэй за ўсё, яшчэ 5 гадоў правінцыяй працягнуць супольна кіраваць старыя партыі.

### Нурсулан Назарбаеў



Кіраўнік Казахстана абвясціў мараторый на шэраг нормаў Зямельнага кодэкса, якія выклікалі вялікі рэзананс у грамадстве. Нормы, якія дазваляюць арэнду зямлі для іншаземцаў, справакавалі буйныя пратэсты. Яны працягваюцца з 24 красавіка па ўсёй краіне. Самай шматлікай стала акцыя ў Атырау, якая сабрала, па розных звестках, ад 700 да 4000 чалавек. Менавіта для спынення пратэстаў Назарбаеў абвясціў мараторый.

Адначасова Елбасы перавёў стрэлкі на чыноўнікаў. Пад раздачу трапілі міністр эканомікі і яшчэ некалькіх чыноўнікаў, якіх адправілі ў адстаўку. Назарбаеў таксама загадаў стварыць новае Міністэрства інфармацыі і камунікацый для растлумачальнай працы з насельніцтвам. Новае ведамства будзе займацца таксама вывучэннем грамадскіх настрояў у сацыяльных сетках.

Нягледзячы на расправу над міністрамі, напружанасць пакуль захоўваецца. 9 мая некалькі актывістаў апазіцыі былі затрыманыя, калі яны сабраліся на цэнтральнай плошчы Алма-Аты для «ўскладання кветак». Ці ўдалося Елбасы стабілізаваць становішча, стане вядома 21 мая, калі ў краіне пройдуць мітынгі ў падтрымку рэжыму.

### Хамза бін Ладэн



Упятую гадавіну забойства Усамы бін Ладэна амерыканскім спецназам у інтэрнэце з'явіўся заклік 23-гадовага сына Усамы, Хамзы бін Ладэна да ісламістаў. У звароце ён прапанаваў экстрэмістам аб'яднацца вакол яго асобы і разам рушыць вызваляць Іерусалім. Аргументуецца гэта тым, што аўтар заклiку — любімы сын Усамы.

Заходняя прэса даўно чакала такога кроку ад Хамзы, і нават завочна назвала яго «прынцам тэрору». Раней у прэсу трапілі некалі лістоў сына да бацькі, у якіх малодшы бін Ладэн абяцае пайсці шляхам шахіда.

Праўда, некаторыя сумняваюцца ў тым, што «прынц тэрору» сапраўды існуе. Яго ніхто не бачыў ужо некалькі год. Акрамя таго, усе звярнулі ўвагу, што звычайна фундаменталісты такога рангу надаюць перавагу відэазваротам, а не публікацыям у інтэрнэце. Прынамсі, так рабіў той жа бін Ладэн. Хапае сумневаў і ў тым, што экстрэмісты, якія зараз арыентуюцца на групоўку «Ісламская дзяржава», падтрымаюць праект сына бін Ладэна. Але хапае і іншых сектаў, якія пасварыліся з «Ісламскай дзяржавай». У гэтым плане спецыялісты спадзяюцца, што з'яўленне Хамзы, хутчэй, будзе спрыяць расколу ў лагеры радыкальных ісламістаў.

# Бесарабія. Гісторыя адной анексіі



Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Летам 1940 года Крэмль знаходзіўся ў эйфарыі ад лёгкага і хуткага далучэння Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны. З Фінляндыяй было больш складана, але і там Маскве ўдалося дамагчыся свайго. Тады ж пачалося «далучэнне» да СССР краін Балтыі. І, нарэшце, Сталін скіраваў погляд на Поўдзень, дзе знаходзілася багатае на нафту Румынскае каралеўства.**

## Спрэчная тэрыторыя

Да Першай сусветнай вайны тэрыторыя Бесарабіі ўваходзіла ў склад імперыі Раманавых. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі тут была абвешчана Малдаўская Дэмакратычная Рэспубліка, якую ў студзені 1918 года акупавалі румынскія войскі. Урад Румыніі падпісаў з малдаўскім кіраўніцтвам дамову аб уваходжанні Бесарабіі ў склад каралеўства. Аднак бальшавікі не жадалі з гэтым мірыцца.

У кастрычніку 1920 года Румынія, Францыя, Вялікабрытанія, Італія і Японія падпісалі ў Парыжы так званы «Бесарабскі пратакол», які прызнаваў за Бухарэстам права на тыя тэрыторыі. Саветы дакумент не прызналі. У наступныя гады адбыўся шэраг палітычных сустрэч і канферэнцый, на якіх абмяркоўваўся статус Бесарабскага краю, якія, аднак, нічым не скончыліся. У 1924 годзе па прапанове Георгія Катоўскага Крэмль стварыў Малдаўскую аўтаномную рэспубліку, якая, па меркаванні Масквы, павінна была стаць «цэнтрам аб'яднання малдаўскага народа» (пасля распаду СССР гэтая аўтаномія ператворыцца ў непрызнаную Прыднястроўскую Малдаўскую рэспубліку. — І.М.).

У 1932 годзе адбыліся савецка-румынскія перамовы ў Рызе, якія зноў не прывялі да ўзгаднення пазіцый краін адносна статуса Бесарабіі.

## Паміж саветамі і нацыстамі

Цяжкую сітуацыю, у якой у канцы 1930-х гадоў аказалася Румынія, выдатна адчуў карэспандэнт амерыканскага часопіса «Life», які пісаў: «Яна здабывае нафты і прыроднага газу больш, чым усе еўрапейскія дзяржавы. [...] Румынія адчувае небяспеку з боку кожнага са сваіх суседзяў. Аднак Германія — найбольш небяспечны з іх. З моманту, калі Гітлер аб'явіў Дунай «германскай ракой», кароль Караль павінен гарантаваць забеспячэнне Германіі пшаніцай для харчавання грамадзян Рэйху, і нафтай для таго, каб нямецкія машыны рухаліся».

23 сакавіка 1939 года Румынія падпісала з Трэцім Рэйхам «Дамову аб развіцці эканамічных адносін», якая, па сутнасці, азначала, што здабыча і перапрацоўка нафты, а таксама румынскія прамысловыя прадпрыемствы пераходзяць пад кантроль Гітлера. У размове з германскім паслом Фабрыцыусам румынскі міністр замежных спраў Грыгор Гафэнку адзначыў, што ў выпадку вылучэння савецкім бокам тэрытарыяльных прэтэнзій Бухарэст звернецца па дапамогу да Берліна. Калі Германія не падтрымае Румынію, то непазбежна будзе румына-савецкая вайна і Рэйх не будзе атрымліваць нафту і збожжа.

Аднак немцы на гэтае папярэджанне не адрэагавалі. У заключаным у Маскве 23 жніўня 1939 года пакце Молатава-Рыбентропа адзначалася, што «датычна паўднёвага ўсходу Еўропы з савецкага боку падкрэсліваецца інтарэс СССР да Бесарабіі. З германскага боку заяўляецца пра яе поўную палітычную незацікаўленасць у гэтых абласцях». У верасні 1939 года пачаліся Другая сусветная вайна і падзел сфер уплыву ў Еўропе.

Ужо 17 верасня 1939 года, у першы дзень «вызвольнага паходу Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь і Украіну», румынскія войскі на мяжы з СССР былі прыведзены ў баявую гатоўнасць. «У 19.00 супраць стыку Рыбніцкага і Цірaспальскага памежных атрадаў на румынскім баку, на востраве, размясціўся атрад са станковым кулямётам. У вёску Аксенція, насупраць 2-га памежнага атрада, прыбыла 300 румынскіх жаўнераў. У раёне мястэчка Рэзіна Оргіеўскага павету, які знаходзіцца насупраць Рыбніцкага памежнага атрада, румыны завяршаюць будаўніцтва абарончых збудаванняў», — адзначалася ў данясенні Галоўнага ўпраўлення памежных войскаў НКУС СССР.




Напружанасць на дэмаркацыйнай лініі паміж СССР і Румынскім каралеўствам адзначалася да лета 1940 года. У дакументах савецкіх памежнікаў падкрэслівалася, што румыны ўзмацняюць абарону суседніх з СССР тэрыторый. 6 студзеня 1940 года ў Кішынёве румынскі манарх Караль II заявіў: «Мы будзем бараніць Бесарабію да апошняга».

А сітуацыя на румына-савецкай мяжы ўсё больш нагадвала баявую. У сакавіку 1940 года намеснік наркама ўнутраных спраў Савецкага Саюза, камкор Іван Масленікаў інфармаваў кіраўніцтва, што «румынскія жаўнеры замінавалі чыгуначны мост на рацэ Днестр на чыгуначнай дарозе Цірaспаль — Бендэры». «Пратэсты нашых камандзіраў па ўсіх выпадках ці застаюцца без адказу, ці адхіляюцца. [...] Асабліва вызываючую пазіцыю займае камандзір румынскага сектара аховы №4 маёр Іянэску, на ўчастку якога колькасць абстрэлаў з'яўляецца найбольш вялікай. Неаднаразовыя спробы начальніка Малдаўскага памежнага атрада пачаць працу па разборы і ўрэгуляванні інцыдэнтаў натыкаюцца на ўпартае супраціўленне маёра Іянэску. Так, напрыклад, ён упарта спрабуе навязаць нашаму прадстаўніку заведама непрымальную фармулёўку найменя лініі ракі Днестр як дзяржаўнай мяжы. [...] На ўчастку Малдаўскага памежнага атрада маецца 25 інцыдэнтаў», — пісаў у адной са справаздач намеснік наркама.

29 сакавіка 1940 года наркам замежных спраў СССР Вячаслаў Молатаў паінфармаваў румынскі бок, што «адсутнасць пакта аб ненападзе паміж дзяржавамі звязана з бесарабскім пытаннем». 19 красавіка 1940 года Каронная рада (вышэйшы орган улады Румыніі) адмовілася дабраахвотна перадаваць Бесарабію і вобласць Герца (тэрыторыя ля аднайменнага горада ля Чарнаўцоў. — І.М.) Савецкаму Саюзу і выказалася за ўзброены супраціў у выпадку вайсковай агрэсіі. Прыхільнікаў гэтай ідэі было шмат і сярод афіцэрскага складу румынскага войска.

Лейтэнант Карнэліу Пятрэску праходзіў службу ў адной з пяхотных частак, размешчаных у Бесарабіі. У сваіх лістах дадому ён адзначаў, што калі Чырвоная Армія нападзе на Румынію, то каралеўскае войска будзе змагацца з ворагам да апошняга. Тым больш, што пасля паразы Польшчы ў вайне супраць Германіі ў распараджэнні румын аказалася значная частка тэхнікі Войска Польскага. Некаторыя танкі і самалёты (як, напрыклад, 34 новыя танкі Renault R-35. — І.М.) трапілі да іх пасля эвакуацыі палякаў на тэрыторыю каралеўства. Іншая тэхніка была атрымана ад новага саюзніка — Трэцяга Рэйха.

## Масква вырашае дзейнічаць

У маі 1940 года Крэмль пачаў рыхтавацца да баявых дзеянняў супраць Румыніі. Чаму менавіта ў гэты час? З самага пачатку Другой сусветнай вайны Сталін уважліва назіраў за геапалітычнымі гульнямі ў Еўропе. Ён чакаў, чыя возьме — Рэйх ці саюзнікі? Напад Германіі на Францыю прымусіў «бацьку народаў» актывізаваць дзеянні на паўднёвым кірунку. На базе Кіеўскай асаблівай вайсковай акругі быў створаны Паўднёвы фронт у складзе 5, 9, 12 армій (32 стралковыя, 2 мотастралковыя, 6 кавалерыйскіх дывізій, 11 танкавых і 3 паветрана-дэсантныя брыгады, 14 карпусных артылерыйскіх палкоў. Усяго каля 460000 жаўнераў, 12000 гармат і мінамётаў, каля 3000 танкаў і 2160 самалётаў — І.М.). Камандаваў фронтам генерал арміі Георгій Жукаў.

Супрацоўнікі савецкіх штабоў рыхтавалі тапаграфічныя мапы будучага тэатра ваенных дзеянняў. Выведнікі вывучалі памежныя румынскія ўмацаванні і лінію абароны. Для дзеянняў на рэках стваралася Дунайская флатылія ВМФ РСЧА. 11 чэрвеня 1940 года савецкія войскі высунуліся ў бок дэмаркацыйнай лініі з Румыніяй.

Паводле плану, часткі Чырвонай Арміі павінны былі нанесці па румынскіх войсках два ўдары: у кірунку Кішынёва і Чарнаўцоў і, такім чынам, узяць праціўніка «у кацёл». Пры гэтым савецкі бок планаваў актыўна выкарыстаць авіяцыю і дэсант. Савецкія караблі Чарнаморскага флоту павінны былі блакіраваць румынскае ўзбярэжжа. 19 чэрвеня 1940 года ў Праскураве



Мікіта Хрушчоў у Бесарабіі




Генерал Г. Жукаў у Бесарабіі, лета 1940 г.



Савецкая вайсковая тэхніка на мяжы з Бесарабіяй, лета 1940 г.


Адна з памежных чыгуначных станцый у Бесарабіі, 1939 г.



Мітынг у падтрымку далучэння Бесарабіі да СССР


Румынскае насельніцтва эвакуюецца з Бесарабіі, чэрвень 1940 г.

камандаванне РСЧА правяло аператыўны занятак з удзелам камандавання вайсковых злучэнняў, якія планавалася выкарыстаць у гэтай аперацыі.

23 чэрвеня 1940 года Вячаслаў Молатаў сустрэўся з германскім паслом Шуленбургам і паінфармаваў таго, што савецкі бок цікавіць не толькі Бесарабія, але і Паўночная Букавіна. Пазіцыю Крамля чыноўнік абгрунтаваў проста: «Там жывуць украінцы!» Берлін вырашыў не перашкаджаць бальшавікам. Ёахім Рыбентроп праз Шуленбурга толькі выказаў «пажаданне», каб румынская тэрыторыя не стала арэнай вайсковых дзеянняў, бо Рэйх зацікаўлены ў хлебе і нафце.

26 чэрвеня 1940 года Молатаў перадаў румынскаму паслу ў Маскве Георге Давідэску заяву з патрабаваннем «вярнуць» СССР спрэчныя тэрыторыі. Румынскі дыпламат адмовіўся прыняць мапу, на якой адзначалася прапанаваная бальшавікамі новая мяжа, што вельмі ўскладніла сітуацыю.

## Румынія капітулюе

Бухарэст спрабаваў знайсці дапамогу ў Берліне, Рыме, Бялградзе і Афінах, аднак урады краін-суседак параілі румынам саступіць. Толькі Турцыя выказалася ў падтрымку Румыніі. У выніку цяжкіх дыскусій, якія адбываліся на пасяджэннях Каралеўскай рады, было прынята рашэнне прыняць савецкі ўльтыматум. Паўплывала на гэта і капітуляцыя Францыі ў вайне з Германіяй.

У дакуменце, які румыны накіравалі ў Маскву, адзначалася: «Каб пазбегнуць кровапраліцця, румынскі ўрад прымае ўмовы эвакуацыі, азначаныя ў савецкай прапанове». У 7.00 28 чэрвеня 1940 года камандаванне румынскай армейскай групоўкі на Усходзе атрымала загад № 6006, які прадпісваў пачаць хуткую эвакуацыю Чарнаўцоў, Кішынёва і іншых гарадоў. Пры гэтым галоўнае камандаванне загадвала рабіць усё, каб пазбегнуць сутыкненняў з Чырвонай Арміяй. Румынскім афіцэрам прадпісвалася адвесці свае падраздзяленні за раку Прут і наладзіць кантакт з прадстаўнікамі савецкіх уладаў і Чырвонай Арміі.

У той жа дзень часткі Чырвонай Арміі перайшлі дэмаркацыйную лінію з Румыніяй.

## Без баёў не абышлося

Не ўсе румынскія памежнікі атрымалі загад аб эвакуацыі. Вось вытрымка з адной з тэлефанаграм, якую накіраваў камандаванню афіцэр савецкага Ізмаілскага памежнага атрада: «Прашу перадаць генерал-маёру, што часткі Чырвонай Арміі фарсіравалі Днестр толькі на ўчастку Ямпаль. Пераправу тут няма. Румынскія пікеты (памежныя пасты) у большасці застаюцца на месцы. Ці можна паклікаць румын на сустрэчу і прапанаваць ачысціць правы бераг? Інакш заняцце пікетаў непазбежна выкліча сутыкненні. Ліквідаваць іх сілай мы маем магчымасць». Масква «забараняла» чырвонаармейцам прымяняць сілу ў заняцці румынскіх памежных застаў, аднак там, дзе каралеўскія памежнікі працягвалі несці службу, іх сілай прымушалі скласці зброю і бралі ў палон.

Падчас «Бесарабскага паходу» савецкі бок актыўна выкарыстоўваў авіяцыю. Так, 29 чэрвеня 1940 года ля мястэчка Болград адбылася высадка савецкага дэсанту са складу 204-й паветрана-дэсантнай брыгады (1372 жаўнеры). У гэтай аперацыі было выкарыстана 99 самалётаў ТБ-3. У гэты ж дзень падраздзяленнямі 201 паветрана-дэсантнай брыгады быў узяты горад Ізмаіл. Захоп абодвух населеных пунктаў суправаджаўся сутыкненнямі з румынскімі войскамі, а ў мястэчку Рэні савецкія дэсантнікі абяззброілі 28-мы і 32-гі пяхотныя батальёны румынскай 142-й дывізіі.

Значная частка афіцэраў каралеўскага войска выступала супраць капітуляцыі. «Мы здаём свае пазіцыі без бою, хоць маглі б даць годны адказ бальшавікам», — пісаў у лісце дахаты лейтэнант Карнэліу Пятрэску. Некаторыя румынскія камандзіры не вытрымлівалі ганьбы і страляліся. «На тэрыторыі Бесарабіі адбываецца багата інцыдэнтаў, у выніку якіх паранена шмат нашых вайскоўцаў. Саветы часта спрабуюць абяззброіць нашых і арыштаваць», — адзначаў у сваім дзённіку адзін з супрацоўнікаў румынскага МЗС.

«Бесарабскі паход» аказаўся цяжкім выпрабаваннем для Чырвонай Арміі. Праблемы ў тэхнічнай падрыхтоўцы і тылавым забеспячэнні войска праявіліся яшчэ падчас «вызвалення» Заходняй Беларусі і Украіны, калі вялікія матарызаваныя злучэнні спынялі рух не з-за супраціву Войска Польскага, а з-за банальных паломак ці недахопу паліва. Тое ж самае было і ў Бесарабіі. «Кінуўшы працу, я пабегла дадому. Па дарозе праз вёску Цапілава праходзілі брудныя, ахоўнага колеру бронемашыны. Шмат тэхнікі стаяла на ўзбочыне дарогі. Чорныя лужыны змазачнага масла былі бачныя на дарозе, а брудныя байцы нешта чынілі. Адна машына выйшла са строю на перакрыжаванні непадалёк ад нашага дома. З яе цякло нешта чорнае, і вясковыя хлапчукі хіхікалі: «Як авечка — дзе стаў, там і лужына». За сарокскім мостам ляжала перакуленая машына. Побач труп жаўнера, укрыты плашч-палаткай. На абочыне сядзеў жаўнер з вінтоўкай. «Як гэта здарылася?» — запыталася я. «Горы-та якія. Тармазы не вытрымалі», — адказаў ён. Я здзівілася: якія горы? Маленькі ўхіл», — узгадвала жыхарка Бесарабіі Ефрасіння Керсноўская.

## Эвакуацыя не ўдалася

Камандаванне 4-й румынскай арміі яшчэ 12 чэрвеня 1940 года прапанавала адвесці ў тыл склады і абслуговы персанал. Тады ж румынскія генералы адзначалі неабходнасць эвакуацыі з Бесарабіі на Захад культурных устаноў і прамысловых прадпрыемстваў. Аднак нічога гэтага зроблена не было. Распрацаваныя румынамі ў даваенны час планы эвакуацыі аказаліся далёкімі ад рэчаіснасці. Цяжкай была сітуацыя з эвакуацыяй насельніцтва. У першую чаргу Бухарэст імкнуўся вывезці на сваю тэрыторыю маладое мужчынскае насельніцтва — патэнцыйных рэзервістаў. Менш увагі надавалі прадстаўнікам нацыянальных меншасцяў.

З румынскага боку ў камісію па эвакуацыі ўваходзілі генерал Аўрэл Алдэа і палкоўнік Хаджы Стоіца. Па іроніі лёсу, апошні яшчэ за паўгода да гэтага адказваў за арганізацыю прыёму бежанцаў з акупаванай нацыстамі Польшчы. Румынскія вайскоўцы пратэставалі супраць хуткага прасоўвання савецкіх войскаў на тэрыторыі Бесарабіі, аднак бальшавікі на гэта не рэагавалі. 3 ліпеня 1940 года ў 14.00 савецкія памежнікі закрылі памежныя пераходы на новай савецка-румынскай мяжы. Румынія патрабавала ад Крамля дазволіць выезд з Бесарабіі і Паўночнай Букавіны 15 тысяч румынскіх грамадзян і эвакуацыю вайсковай маёмасці, але рашэнне аб агульным пропуску гэтых людзей так і не было прынята. Да жніўня 1940 года вярнуцца ў Румынію змаглі толькі 3 тысячы чалавек.

## Савецкая Малдавія

У Бесарабіі назіраліся працэсы, падобныя на тыя, што пасля 17 верасня 1939 года адбываліся ў Заходняй Беларусі. Частка мясцовага насельніцтва нападала на паліцыю, дзяржаўныя ўстановы, знішчала дзяржаўныя сімвалы каралеўства, спрабавала абяззброіць невялікія атрады румынскага войска. Большасць такіх выпадкаў здаралася ў гарадах, дзе было шмат яўрэйскага насельніцтва. Румынскія ўлады гэтага чакалі. Яшчэ 26 чэрвеня 1940 года міністр унутраных спраў Румыніі Міхаіл Гельменэску прасіў галоўнага равіна Аляксандра Шафрана папярэдзіць бесарабскіх яўрэяў аб недапушчальнасці арганізацыі правакацый супраць румынскага войска і мясцовых органаў улады.

Але значная частка багатых гандляроў, фабрыкантаў і землеўласнікаў яўрэйскага паходжання спрабавалі эвакуявацца ў Румынію. Яны ведалі пра дэпартацыі і саветызацыю Заходняй Украіны, і нічога добрага ад новай улады не чакалі.

З кветкамі жаўнераў Чырвонай Арміі сустракалі мясцовыя ўкраінцы. Здараліся і выпадкі, калі прадстаўнікі былой румынскай улады ладзілі святочныя мерапрыемствы ў гонар «савецкіх вызваліцеляў». Так, у мястэчку Сарокі мэр Георгі Лупашка, прэфект Пэтрэ Сфэкла і прадстаўнікі Партыі нацыянальнага адраджэння сустракалі чырвонаармейцаў хлебам-соллю. Румынская прэса ў тыя дні актыўна выкрывала здраднікаў, якія «прадаліся бальшавікам». Пры гэтым СССР румынскія газетчыкі імкнуліся «не чапаць». Відавочна, тут не абышлося без указання зверху. Летам 1940 года Румынскае каралеўства страціла 17% сваёй тэрыторыі і 18,9% насельніцтва.

> «Мы здаём свае пазіцыі без бою, хоць маглі б даць годны адказ бальшавікам», — пісаў у лісце дахаты лейтэнант Карнэліу Пятрэску

2 жніўня 1940 года VII сесія Вярхоўнага савета прыняла рашэнне аб утварэнні Саюзнай Малдаўскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. У сакавіку 1941 года на гэтых тэрыторыях пачалі выдаваць пашпарты «з сярпом і молатам». Саветызацыя суправаджалася рэпрэсіямі і дэпартацыямі: у ноч з 12 на 13 чэрвеня 1941 года з Малдаўскай ССР былі вывезены члены сямей румынскіх ваеннапалонных і супрацоўнікаў былой каралеўскай дзяржадміністрацыі. Гэтыя людзі былі накіраваныя ў Казахскую ССР, Комі АССР, Краснаярскі край, Омскую і Новасібірскую вобласці. Усяго з Бесарабіі было дэпартавана 25 711 чалавек у 29 чыгуначных эшалонах.

## Хаўруснік Трэцяга Рэйху

Анексія Бесарабіі, Паўночнай Букавіны і вобласці падштурхнула румынскае кіраўніцтва на яшчэ большае збліжэнне з Германіяй. Берлін жа быў устрывожаны «цікавасцю» Масквы да нафтаносных абласцей Румыніі. І менш чым праз год, 22 чэрвеня 1941 года, румынскія часткі разам з вермахтам атакавалі Чырвоную Армію на рацэ Прут. У адным з такіх падраздзяленняў, якое першым ішло ў бой, служыў і лейтэнант Карнэліу Пятрэску.

Для каралеўскіх жаўнераў напад Гітлера на СССР стаў помстай за ганьбу, якую яны перанеслі год таму ў Бесарабіі. Адным з чырвонаармейцаў, які сустрэў ворага на памежнай рэчцы Прут, быў мой дзед, беларус, кулямётчык Харытон Мельнікаў. Па яго ўспамінах, першыя дні баёў у Бесарабіі былі вельмі жорсткімі і кровапралітнымі, аднак ворагу (а гэта былі дзве румынскія і адна нямецкая арміі) не ўдавалася істотна пацясніць савецкую абарону. Магчыма, у тых баях сышліся мой дзед і румынскі афіцэр Пятрэску. Абодва пазней удзельнічалі ў бітве за Адэсу: адзін абараняў горад, другі імкнуўся яго захапіць.

Харытон Мельнікаў на савецка-румынскай мяжы быў цяжка паранены, пазней вярнуўся ў дзеючую армію і ў складзе 269-й стралковай Рагачоўскай чырвоназнамёнай дывізіі ўдзельнічаў у вызваленні Беларусі і баях у Усходняй Прусіі. А Карнэліу Пятрэску даслужыўся да капітана, удзельнічаў у баях на Каўказе, вярнуўся ў Румынію, каб у 1944 годзе ваяваць на баку караля Міхая І ужо супраць нацысцкай Германіі. У 1947 годзе ён эміграваў у ЗША, і ягоны далейшы лёс невядомы.

З лета 1941-га па 1944 год Бесарабія і Паўночная Букавіна ўваходзілі ў склад Румынскага каралеўства. У сакавіку-жніўні 1944 года, у выніку Уманска-Баташанскай і Яска-Кішынёўскай аперацый войскі 2-га і 3-га Украінскіх франтоў выбілі нямецкія і румынскія войскі са спрэчнага рэгіёну. Падчас Парыжскай мірнай канферэнцыі 1947 года СССР і Румынія падпісалі пагадненне аб прызнанні мяжы, устаноўленай у чэрвені 1940 года. Пасля распаду СССР Бесарабія, Паўночная Букавіна і раён Герца засталіся ў складзе незалежных Малдовы і Украіны. Сёння тым жыхарам гэтых краін, хто ў стане даказаць сваяцтва з людзьмі, што да вайны былі падданымі румынскага караля, сучасныя румынскія ўлады выдаюць грамадзянства.

**Фота з уласнага архіву Ігара Мельнікава**




# Музычны «батл»: «Hurma» супраць «Haina»

Павел АКСІНОВІЧ

**Напачатку ліпеня на тэрыторыі аэрадрома «Баравая» пройдзе фестываль «МОСТ». Сярод яго ўдзельнікаў шэраг беларускіх і замежных выканаўцаў, у тым ліку «Skillet», «Ночные снайперы», «ДДТ», «Дай Дарогу». Але ўсё яшчэ не вызначаны гурт, які будзе адкрываць фэст.**





З гэтай нагоды арганізатары оўпэн-эйра вырашылі правесці адбор на вакантнае месца. Кожны аўторак мая ў сталічным клубе «TNT Rock Club» праходзяць паўфіналы музычнага спаборніцтва за права выступіць першымі на культавым фестывалі. Карэспандэнт «Новага Часу» завітаў на адно з супрацьстаянняў беларускамоўных калектываў «Hurma» і «Haina».

Першым на батл выйшлі хлопцы з «Hurma» — «Дэбюта года–2013» па версіі «Тузіна хітоў». Музыкі граюць лёгкі гарадскі рок па-беларуску і ўжо выдалі два паўнафарматныя альбомы.

Іх апаненты — маладое трыа «Haina» — эксперыментальны калектыў, у складзе якога баяніст, скрыпачка, бубнач з разнастайнымі электроннымі прымочкамі. У канцы мінулага года гурт прадставіў свой дэбютны альбом.

Кожнаму калектыву давалася 30 хвілін на выступ. Пераможцу супрацьстаяння выбірала журы. Iтры з чатырох экспертаў аддалі голас за «Haina», які 5 чэрвеня ў фінальным адборы пазмагаецца за права адкрыць «МОСТ».

А пакуль адборачны этап працягваецца: 17 мая «батл» адбудзецца паміж гуртамі «Boston's Lane» і «Ask&Skies», а 24 мая гледачоў будуць чакаць каманды «Чип и Дейл» і «Jester Crew».

# Забег «бізонаў» у Лагойску

Аляксей СТАЛЯРОЎ

**Аматары экстрыму сабраліся 7–8 мая ў спартыўным комплексу «Лагойск» на 5-ы «Bison Race».**

Прыняць удзел у забегу, каб выпрабаваць свае фізічныя магчымасці ды сілу волі, перажыць незабыўныя эмоцыі, маглі як прафесіяналы, так і ўсе ахвочыя. Калі здароўе дазваляе, канешне.

Разнастайныя цікавыя перашкоды кшталту поўзання пад калючым дротам у брудзе і вадзе, удары электрычным токам, скокі праз вогнішча і бар'еры — усё гэта зрабіла з забегу сапраўдную прыгоду, а яркія карнавальныя строі ўдзельнікаў «Bison Race» ператварылі дзею ў яскравае відовішча з мноствам цікавых момантаў і кур'ёзаў.

У гэтым годзе ўдзельнікаў забегу чакала некалькі навінак ад арганізатараў: напрыклад, больш экстрэмальны начны забег з налобнымі ліхтарыкамі, магчымасць не толькі трэніравацца на тэрыторыі спарткомплексу, але і адпачыць у намётах на працягу двух дзён.









Дарэчы, прафесіянальныя спартоўцы праз перамогу ў «Bison Race» могуць прыняць удзел у міжнародных спаборніцтвах. Аматары проста атрымалі задавальненне ад пераадолення перашкод і ўласных слабасцяў, праверылі на трываласць свае ўзаемаадносіны з сябрамі, калегамі, каханымі і роднымі.

Адным словам, у «Bison Race» урэшце атрымалася зрабіць экстрэмальны спорт сапраўды модным не толькі сярод беларускіх прафесійных спартоўцаў, але і звычайных беларусаў.

КВИТАНЦИЯ

ИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)

отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя: 3012741108019 | Лицевой счет: Код 739

УНП*: 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Пеня ______

Всего ______

Кассир

# Шаноўныя чытачы!

**«Новы Час» немагчыма купіць у шапіках РУП «Белсаюздрук». Няма нас і ў падпісным каталогу РУП «Белпошта».**

Але падпісацца на «Новы Час» можна. Для гэтага трэба: 1. Пералічыць грошы на наш рахунак; 2. Накіраваць копію плацёжнага дакумента на адрас рэдакцыі (220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234) ці на электронную пошту рэдакцыі (novychas@gmail.com). Альбо патэлефанаваць у рэдакцыю і паведаміць адрас дастаўкі (+375 29 9625143; +375 29 7518143; Арцём)

**Нашы рэквізіты:** рахунак 3012741108019 у Дырэкцыі ААТ «Белінвестбанка», па г. Мінску і Мінскай вобл. код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11.

**Падпісацца таксама можна ў нашым офісе, а таксама ў нашых прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 722 61 69, Міхась
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда,
ці **атрымаць бясплатна** (8029)666 45 29 (Анатоль)
**Гомель:** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

З **1 студзеня 2016** года кошт аднаго месяца падпіскі — **32 000** руб., **квартала — 90 000 рублёў.**

**ШЧЫРЫ ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА РАЗУМЕННЕ І ПАДТРЫМКУ!**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 451

Падпісана да друку 13.05.2016. 8.00.
Наклад 5000 асобнікаў. Кошт свабодны.